**«...ЧЫМ ЦЯСНЕЙ СУВЯЗЬ МАСТАКА З УСІМ ШМАТГРАННЫМ ЖЫЦЦЁМ САВЕЦКАГА НАРОДА, ТЫМ БОЛЬШ ВЕРНЫ ШЛЯХ ДА ТВОРЧЫХ ДАСЯГНЕННЯЎ І ЎДАЧ»**

Л. І. БРЭЖНЕЎ.

*(Са Справаздачнага даклада ЦК КПСС XXIV з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза).*



ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 14 (2645) ● Пятніца, 6 красавіка 1973 года. ● Цана 8 кап.



НЕПАРЫЎНАЯ сувязь з народам, самы чынны ўдзел у яго вялікай пераўтваральнай працы былі і застаюцца свяшчэнным абавязкам дзеячоў нашай літаратуры і мастацтва—ад першых дзён існавання Краіны Саветаў.

У цэхах заводскіх карпусоў, на калгасных і саўгасных нівах, у лабараторыях вучоных пісьменнікі і мастакі сустракаюцца з героямі пяцігодак, і людзі сённяшняга дня ўваходзяць у творы правобразамі людзей будучыні.

І сёння наша літаратура і мастацтва вядуць з цэлым народам гутарку, і сёння яны чуйна падслухоўваюць біццё мільёнаў сэрцаў, каб палымяным расказам пра гераічны час унесці свой уклад у вялікую народную справу.





*На нашых здымках:*

*Якуб Колас, Піліп Пестрак і Міхась Клімковіч (справа налева) на Кіраўскім заводзе ў Ленінградзе.*

*Іван Мележ сярод калгаснікаў-землякоў.*

*Рыгор Шырма, Алесь Савіцкі і Міхась Калачынскі (справа налева) на палетках саўгаса «Бягомльскі».*

*Яўген Зайцаў сярод рабочых Мінскага завода імя С. М. Кірава.*

*Пятрусь Броўка і Максім Лужанін (справа налева) на Віцебскім дывановым камбінаце.*





# САЮЗ МУЗЫ І ПРАЦЫ

Гэта сустрэча стала святам. Артысты Беларускага тэатра оперы і балета прымалі дарагіх гасцей — рабочых Мінскага аўтамабільнага завода.

Аб рабоце абодвух калектываў, аб іх планах і даўняй дружбе, якая звязвае рабочых з артыстамі, гаварылі дырэктар завода І. Дзёмін і дырэктар тэатра М. Шаўчук.

З цёплымі словамі прывітання выступіла народная артыстка СССР Т. Ніжнікава. Яна падзякавала рабочым завода, якія ў гэты вечар прынялі ў сваю сям'ю — запісалі ганаровымі членамі брыгад камуністычнай працы народных артыстаў БССР Т. Шымко, З. Бабія, Н. Давыдзенка, А. Карзянкову, А. Кагадзеева, народнага мастака рэспублікі Я. Чамадурава, заслужаных артыстаў БССР Л. Гарэліка, І. Шыкунову, Л. Бржазоўскую, Ю. Траяна.

— Мы пастараемся быць дастойнымі гэтага высокага звання. Будзем часцей сустракацца ў цэхах завода, сваім мастацтвам дапамагаць вашай рабоце,— сказала яна.

У сваю чаргу артысты назвалі ганаровымі членамі свайго калектыву лепшых людзей завода — наладчыка прэсавага цэха Я. Камарыста, галоўнага канструктара завода, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР М. Высоцкага, вадзіцеля-выпрабавальніка эксперыментальнага цэха, Героя Сацыялістычнай Працы К. Паўлянковіча, брыгадзіра ліцейнага цэха шэрага чыгуну А. Меркуля і іншых.

Аўтазаводцы ўстанавілі дзве прэміі за выканаўчае майстэрства, якія штогод будуць уручацца артыстам тэатра. Тэатр перадаў аўтазаводцам пераходны вымпел для ўручэння лепшай брыгадзе.

Пасля ўрачыстасцей адбыўся святочны канцэрт, у якім прынялі ўдзел салісты тэатра Н. Давыдзенка, В. Кірычэнка, В. Саркісян, А. Саўчанка, Я. Паўловіч, В. Садоўская, В. Лапо, а таксама самадзейныя калектывы аўтазавода — народны ансамбль танца, народны хор, вакальна-інструментальны ансамбль «Журавінка», мужчынскі хор. Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам. Яшчэ мацней стала дружба двух калектываў.

**Р. ЯЎРАЕЎ,**
заслужаны артыст БССР.

# ПАД ГАНАРОВЫМ ДЭВІЗАМ

**З МЭТАЙ далейшага развіцця агітацыйна-мастацкіх брыгад і агіттэатраў, больш актыўнага ўдзелу іх у барацьбе працоўных за выкананне народнагаспадарчага плана трэцяга, рашаючага года дзевятай пяцігодкі сакратарыят ВЦСПС і сакратарыят ЦК ВЛКСМ прынялі рашэнне аб правядзенні ў 1973—1974 гадах усесаюзнага агляду агітбрыгад пад дэвізам — «Рашаючаму году— ударную працу!».**

**У аглядзе прымаюць удзел калектывы агітацыйна-мастацкіх брыгад і агіттэатраў заводаў, фабрык, прадпрыемстваў і арганізацый, калгасаў і саўгасаў, навучальных устаноў, клубаў, дамоў і палацаў культуры.**

# ТРЭЦЯЯ ЎСЕСАЮЗНАЯ— У БРЭСЦЕ

У салоне Брэсцкага аддзялення Саюза мастакоў БССР разгорнута экспазіцыя трэцяй Усесаюзнай выстаўкі акварэлей...

Сам па сабе гэты факт выклікае цікавасць. Не часта ў абласных гарадах наладжваюцца такія прадстаўнічыя выстаўкі — больш чатырохсот работ самых вядомых акварэлістаў Савецкага Саюза ў яе экспазіцыі. Тэматычны дыяпазон выстаўкі вельмі шырокі — тут і партрэт, і нацюрморт, і пейзаж. Тут можна ўбачыць работы, прысвечаныя рабочаму чалавеку і інтэлігенцыі, працоўнаму сялянству і вартаўнікам нашых мірных палеткаў — слаўным воінам Савецкіх Узброеных Сіл.

Наведвальнікі выстаўкі падоўгу затрымліваюцца ля акварэлей, якія апяваюць строгую прыгажосць сталіцы нашай краіны, апавядаюць пра мінулае і сённяшні дзень прыгажуна Ленінграда.

Трэцяя Усесаюзная выстаўка акварэлей расказвае і пра цудоўнае і мудрае мастацтва старажытнай Арменіі, песенна-рамантычнай Прыбалтыкі, яркай, нібы колеры вясёлкі, Малдавіі, пра суровую Поўнач і шчодры Поўдзень. Расказвае яна і пра нашу родную Беларусь. Вельмі прыемна было сустрэць у экспазіцыі выстаўкі работы беларускіх мастакоў А. Паслядовіч, Г. Вашчанкі, Ф. Гумена.

**А. ГАРАЙ.**

# ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за заслугі ў развіцці беларускага савецкага опернага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння народны артыст Беларускай ССР саліст Дзяржаўнага ордэна Леніна акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларускай ССР Генералаў Анатоль Міхайлавіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.**

# НОВЫ НАРОДНЫ

*За высокае выканаўчае майстэрства, актыўны ўдзел у мастацкім абслугоўванні насельніцтва калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне народнага ансамблю песні і танца «Свіцязь» Навагрудскага раённага дома культуры.*

**Здаўна славіліся сваёй работай харавы і танцавальны калектывы Навагрудскага раённага дома культуры. У 1966 годзе яны былі аб'яднаны ў ансамбль песні і танца, якому далі назву «Свіцязь». Сюды прыйшлі новыя ўдзельнікі — спевакі і танцоры — рабочыя, служачыя, выкладчыкі тэхнікума і школ Навагрудка.**

**Праз год пачалося актыўнае творчае жыццё ансамбля. Пра яго майстэрства загаварылі ў рэспубліцы. Ансамбль — нязменны ўдзельнік усіх аглядаў і фестываляў самадзейнага мастацтва ў раёне і вобласці. Свае адметныя фарбы ўносіць «Свіцязь» і ў адказныя рэспубліканскія паказы дасягненняў аматарскіх калектываў.**

**Ансамбль падрыхтаваў 6 вакальна-харэаграфічных кампазіцый: «Свіцязь», «Крыжачок», «Вішанька», «Дзявочы карагод», «Паўлінка», «Было ў цешчы сямёра зяцёў». Танцоры з захапленнем выконваюць беларускія народныя танцы, а таксама «Волжскую кадрылю», «Танец з лыжкамі» і інш. У рэпертуары харавой групы ансамбля — песні савецкіх кампазітараў і народныя песні.**

**Артысты-аматары частыя і жаданыя госці ў калгасах і саўгасах раёна. Летась, напрыклад, для працаўнікоў вёскі было наладжана 14 канцэртаў.**

**Мастацкі кіраўнік ансамбля Яўген Шахарэвіч, балетмайстар Аляксандр Крайнік.**

Іван ШАМЯКІН

# ПЯЦІГОДКА

**Чацвёрты пленум праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, прадстаўнічы форум мастакоў слова краіны... На ім адбылася цікавая і змястоўная размова аб месцы пісьменніка і яго задачах у выкананні планаў пяцігодкі і канкрэтна — трэцяга, рашаючага года пяцігодкі. Пленум засяродзіў сваю ўвагу на такім важным, баявым, аператыўным жанры, як мастацкі публіцыстычны нарыс. Цікава выступалі вядучыя савецкія пісьменнікі, людзі, якія паспяхова распрацоўваюць тэму сучаснасці і ў мастацкіх творах, і ў жанры публіцыстыкі: К. Сіманаў, В. Кажэўнікаў, Г. Радаў, М. Грыбачоў, В. Казачэнка, Р. Эсенаў, А. Алімжанаў. З пленума вынікаюць вельмі важныя задачы і для нашай беларускай пісьменніцкай арганізацыі. У Беларусі ідзе паспяховае выкананне планаў пяцігодкі ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы, у навуцы, культуры. На аснове рашэнняў пленума прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі і партбюро зараз выпрацоўваюць план мерапрыемстваў, накіраваных на тое, каб наблізіць пісьменнікаў да жыцця і як мага развіць жанр мастацкай публіцыстыкі.**

**У аснову артыкула, які прапаноўваецца ўвазе чытачоў, пакладзена выступленне першага намесніка старшыні праўлення СП БССР І. Шамякіна на IV пленуме праўлення СП СССР.**

„ПІСЬМЕННІК І ПЯЦІГОДКА» — тэма вельмі шырокая, таму што ўся наша работа, ва ўсіх жанрах і відах літаратуры, уся арганізацыйная і прапагандысцкая дзейнасць павінна быць накіравана на тое, каб дапамагчы народу найлепшым чынам ажыццявіць грандыёзныя планы партыі — планы пяцігодкі.

Я з цікавасцю праслухаў вялікі, змястоўны, аналітычны даклад Г. М. Маркава.

Думаючы аб нашых задачах, я ўспамінаю другі пленум—пленум ЦК КПБ, які адбыўся месяц назад і на якім абмяркоўваліся вынікі снежаньскага Пленума ЦК КПСС і намячаліся мерапрыемствы па павышэнню эфектыўнасці прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу. Пры вялікіх дасягненнях рэспублікі, якія выклікаюць захапленне, гордасць і радасць кожнага беларуса, побач з дадзенымі аб паспяховым выкананні планаў двух гадоў пяцігодкі, на пленуме ЦК КПБ быў зроблен і вельмі глыбокі аналіз недахопаў, аналіз прычын, якія перашкаджаюць нам рухацца наперад яшчэ больш хуткімі тэмпамі, была там пасапраўднаму ленінская крытыка і самакрытыка. Асабіста на мяне такі дыялектычны падыход да дасягненняў і недахопаў, такая страсная партыйная накіраванасць на вырашэнне самых складаных праблем, якія ўзнікаюць ва ўсіх галінах сацыялістычнай вытворчасці, зрабілі вельмі вялікае ўражанне.

Пасля пленума ЦК КПБ мы правялі ў Саюзе пісьменнікаў гадавыя справаздачныя сходы творчых секцый. Правялі пленум праўлення, які таксама кладзецца пад рубрыку «Пісьменнік і пяцігодка». Ён у нас праходзіў у рэчышчы тых жа задач, што абмяркоўваліся на ўсесаюзным пленуме. Толькі мы вылучалі іншы жанр, не менш аператыўны — паэзію, тэма нашай гаворкі была «сучаснасць і паэзія» — аб грамадзянскіх пазіцыях паэзіі і паэтаў, аб традыцыях Маякоўскага ў сучаснай беларускай паэзіі. Размова досыць шырокая і, безумоўна, змястоўная. Але мяне не пакідала пачуццё, што ў аглядзе ўсёй прадукцыі, усіх сваіх поспехаў і недахопаў, у пастаноўцы задач і выпрацоўцы канкрэтных творчых і арганізацыйных мерапрыемстваў мы ўсё ж не змаглі яшчэ падняцца да той глыбіні аналізу, бескампраміснасці і самакрытычнасці, якая была на снежаньскім Пленуме ЦК КПСС, на партыйных пленумах і активах. Мяне радуе, што на IV пленуме праўлення СП СССР мы наблізіліся да такой размовы.

З яго трыбуны мы, прадстаўнікі нацыянальных рэспублік, гаварылі аб дасягненнях сваіх літаратур.

Дастаткова пералічыць імёны аўтараў, назвы кніг, нарысаў, артыкулаў, што з'явіліся за апошнія гады, каб упэўніцца, што ў галіне мастацкай публіцыстыкі ў нас ёсць пэўныя здабыткі.

Сапраўды, дакументальныя аповесці А. Савіцкага, В. Мысліўца, нарысы Я. Сіпакова, В. Палтарана, В. Якавенкі, артыкулы многіх пісьменнікаў, у тым ліку такіх шырока вядомых, як П. Броўка, М. Танк, Я. Брыль, А. Кулакоўскі, Т. Хадкевіч, многія нарысы і артыкулы ў часопісах «Неман», «Полымя» даюць усе падставы гаварыць аб пэўных поспехах гэтага жанру.

Але мы разумеем, што маем толькі сярэдні ўзровень публіцыстыкі, і разумеем, што такі ўзровень не можа ўжо задавальняць сённяшняга чытача—чалавека, які рухае навукова-тэхнічны прагрэс.

Сёння ў цэнтры ўвагі ўсёй грамадскасці — эфектыўнасць вытворчасці. У цэнтры ж нашай пісьменніцкай увагі павінна стаяць эфектыўнасць кожнага нашага друкаванага і вуснага выступлення ў любым жанры, няхай гэта будзе артыкул, нарыс, верш, песня, апавяданне, аповесць, п'еса.

Разам з тым трэба памятаць, што ў наш час развіцця такіх масавых сродкаў інфармацыі, як радыё і тэлебачанне, з надрукаваных у газетах, часопісах артыкулаў, нарысаў могуць прыцягнуць увагу шырокага кола чытачоў толькі тыя, у якіх ставяцца сапраўды важныя і сур'ёзныя вытворчыя і маральна-этычныя праблемы і ў якіх бачны чалавек, герой.

Сярэдні апісальны нарыс, артыкул у газеце, у часопісе сёння не можа даць таго эфекту, мець такога ўздзеяння на чытача, якое ён меў у першыя пяцігодкі, у гады Айчыннай вайны, калі друкаванаму слову належала дамінуючая інфармацыйная і прапагандысцкая роля. Цяпер гэта роля пераходзіць да тэлебачання. Аб гэтым, дарэчы, добра гаварыў на ўсесаюзным пленуме Афанасій Салынскі...

«Литературная газета» карыстаецца вялікай папулярнасцю ў чытачоў нават самых далёкіх ад літаратуры прафесій. Тыраж яе павялічваецца з году ў год менавіта дзякуючы вострай праблемнай публіцыстыцы.

Мы не можам пахваліцца такой публіцыстыкай ні ў адным з друкаваных органаў нашай рэспублікі. Няма ў нас таго, што ёсць у другім «сшытку» «Литературной газеты».

Мы, як, бясспрэчна, і нашы таварышы ў іншых нацыянальных саюзах, сур'ёзна думаем над прычынамі, якія перашкаджаюць развіццю мастацкай публіцыстыкі. Ды не толькі адной публіцыстыкі — з'яўленню паўнакроўных мастацкіх твораў на тэму сучаснасці.

У чым жа прычына? Мала таленавітых людзей? Не. Таленавітыя пісьменнікі ёсць ва ўсіх жанрах. Узровень прозы, паэзіі, драматургіі, асабліва прозы на тэмы гераізму народа ў вайне, гісторыі народа, жыцця вёскі ў дарэвалюцыйны час і ў першыя гады Савецкай улады, папулярнасць кніг В. Быкава, М. Лынькова, І. Мележа, І. Навуменкі, П. Пестрака, п'ес А. Макаёнка гавораць аб тым, як высока вырасла майстэрства нашых пісьменнікаў. Ужываючы модны цяпер тэрмін, можна сказаць, што многім кнігам беларускай літаратуры можна смела прысвойваць знак якасці.

Аднак, акрамя п'ес А. Макаёнка, усе гэтыя кнігі — аб мінулым. Ні адзін з названых мною пісьменнікаў і многія дзесяткі іншых не падступілі яшчэ да актуальных тэм сучаснасці, да тых жыццёвых праблем, якія асабліва хвалююць нашых сучаснікаў — людзей 70-х гадоў.

Папрок гэта жорсткі, і, я ведаю, некаторыя мае калегі не любяць яго. Яны могуць сказаць, што такі вывад банальны і спрошчаны, што, маўляў, у творчасці ўсё больш складана. Але думаю, мы павінны з партыйнай прынцыповасцю і самакрытычнасцю прызнаць: уся справа ў тым, што слаба мы ведаем чалавека эпохі навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, эпохі разгорнутага будаўніцтва камунізму, не даходзім яшчэ да ўсіх надзвычай складаных, супярэчлівых і ў той жа час велічных праблем нашага часу. Слаба іх ведаем, таму што слаба звязаны з жыццём, з працоўнымі калектывамі заводаў, новабудоўляў, інстытутаў, канструктарскіх бюро, саўгасаў і калгасаў.

# НАСУСТРАЧ

рэалізму. Мы ахвотна прадастаўляем нашы старонкі і старэйшым літаратарам. У нас выступалі неаднойчы народныя паэты рэспублікі Пятрусь Броўка і Аркадзь Куляшоў, актыўна супрацоўнічаюць з часопісам Іван Шамякін, Янка Брыль, Пімен Панчанка, Максім Лужанін, Васіль Вітка, Кастусь Кірэенка.

Нам крыху шкада, што апошнім часам мы малавата адкрываем новых імён. Калі некалькі год назад амаль адначасова з'явіліся такія імёны, як Алесь Разанаў, Вольга Іпатава, Марыя Баравік, Галіна Каржанеўская, Юрка Голуб, то цяпер такія адкрыцці сталі радзейшымі. Але заўсёды нашы старонкі адкрыты для маладых. Мы іх чакаем!

*Увага да маладых, як мы памятаем, была адной з лепшых традыцый «Маладосці»*

— Так. Добрая сувязь з камсамолам рэспублікі і заклапочанасць творчасцю моладзі былі закладзены з самага пачатку існавання часопіса. Вельмі сур'ёзным стаўленнем да творчай моладзі, добразычлівасцю вызначаліся рэдактары часопіса Аляксей Кулакоўскі, Пімен Панчанка, Алесь Асіпенка — яны падтрымлівалі ўсё таленавітае, дапамагалі станаўленню таленту, скіроўвалі моладзь у правільным кірунку.

*— На Усесаюзнай нарадзе галоўных рэдактараў літаратурных выданняў і на Пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР многа гаварылася пра сувязь пісьменніка з жыццём краіны. Якія тут у вас набыткі і задачы?*

— Усе тыя турботы і праблемы, пра якія гаварылася на нарадзе і на пленуме, хвалююць і наш калектыў. У нас мала твораў, асабліва мастацкіх, пра маладога рабочага, маладога калгасніка, маладога вучонага, увогуле — на сучасную тэму. Нельга сказаць, што іх зусім няма. Мы якраз працуем над аповесцю Эдуарда Ярашэвіча пра жыццё сучаснай вёскі, над творам Рыгора Падневіча «Мы са сталярнага» — пра сённяшніх маладых рабочых.

Недахопы нашага літаратурнага аддзела мы стараемся ўраўнаважыць актывізацыяй работы аддзела публіцыстыкі. З першага нумара ўвялі новую рубрыку «На ўдарных камсамольскіх» — яна стане рэгулярна з'яўляцца ў кожнай кніжцы часопіса і будзе ахопліваць розныя бакі дзейнасці беларускай камсамоліі на новабудоўлях рэспублікі. У нас апублікаваны матэрыялы з Мазырскага нафтаапрацоўчага завода, шыннага камбіната ў Бабруйску, пра меліярацыю Палесся і інш. У пятым нумары пойдуць замалёўкі Валянціна Мысліўца пра магілёўскіх лаўсанаўцаў.

З трэцяга нумара ўведзена рубрыка «Пра малодшага таварыша». Пад ёй мы друкуем расказы старэйшых таварышаў, камуністаў, партыйных работнікаў пра камсамольскіх важакоў, пра сённяшнюю моладзь, пра дасягненні і праблемы камсамольскай работы. Гэтую рубрыку адкрыў першы сакратар Бярозаўскага РК КПБ П. Лебедзеў, у майскім нумары выступіць першы сакратар Шумілінскага РК КПБ В. Храмцоў. Мы імкнемся ў нашых публіцыстычных матэрыялах больш праблемна глядзець на жыццё, каб адыходзіць ад голай інфармацыйнасці, рэпартажнасці. У гэтым плане нам здаецца цікавым артыкул Галіны Айзенштат «Поле сямідзесятых», дзе аўтар цікава разважае пра працу сельскіх дзяўчат-механізатараў.

*— А якія планы ў галіне крытыкі, літаратуразнаўства, мастацтва?*

— Тут мы таксама хацелі б выйсці на праблемную размову. І паспрабавалі гэта зрабіць, надрукаваўшы агляд маладой паэзіі 1972 года Уладзіміра Гніламёдава. Рыхтуем агляд маладой прозы мінулага года. Мы робім практыкай публікацыю своеасаблівых творчых партрэтаў. Далі «штрыхі да творчага партрэта» Пімена Панчанкі, у майскім нумары будзе партрэт Івана Мележа, на чарзе артыкулы пра Івана Навуменку, Андрэя Макаёнка, Івана Пташнікава, Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага і іншых пісьменнікаў старэйшага і сярэдняга пакаленняў.

Сёлета мы збіраемся пачаць цыкл артыкулаў крытыкаў з братніх рэспублік пра развіццё маладой прозы і паэзіі.

Акрамя таго, рэгулярна будзем даваць інтэрв'ю з маладымі дзеячамі мастацтва, рэпартажы з майстэрань мастакоў і скульптараў, творчыя партрэты маладых артыстаў. Ужо змясцілі інтэрв'ю з Ігарам Лучанком і артыкул пра творчасць мастачкі Нэлы Шчаснай, у красавіцкім нумары ідзе рэпартаж з майстэрні Сяргея Вакара, на чарзе артыкулы пра спевакоў Віктара Кучынскага, Тамару Раеўскую, мастака Васіля Шаранговіча.

Ну, і паколькі часопіс маладзёжны, шырока будзем даваць матэрыялы пра спорт. У прыватнасці, нам абяцаў аповесць пра свой выдатны шлях у спорце наш вядомы беларускі асілак Аляксандр Мядзведзь.

## НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ




Вокладкі новых кніг, якія выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура»: Максім Лужанін «Рэпартаж з рубцом на сэрцы» (мастак В. Тарасаў), Алег Лойка «Шчырасць» (мастак Л. Чурко), «Азербайджанскія народныя казкі» (мастак Б. Забораў), Алесь Асіпенка «Парогі» (мастак Г. Малышаў), Міхась Парахневіч «Чырвоны аўтобус» (мастак Ю. Пучынскі), Валянцін Мыслівец «Рабочыя людзі» (мастак Г. Шэлег).

## ВЫЙШЛІ З ДРУКУ

**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**М. Ільінкоўскі. Ішла вайна народная.** Запіскі сакратара Мазырскага падпольнага райкома партыі. Мемуары. Літаратурная апрацоўка І. Маслова. На рускай мове. Мастак С. Кавалёў. 1973 г. 236 стар. Тыраж 30.000 экз. Цана 51 кап.

**В. Шымук. Леў Даватар.** Нарыс. Серыя «Народныя героі». Мастак Г. Грак. 1973 г. 88 стар. Тыраж 12.000 экз. Цана 12 кап.

**ВЫДАВЕЦТВА «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»**

**М. Ваданосаў. Дзе віруе Бяроза.** Аповесці і апавяданні. Мастак В. Харэўскі. 1973 г. 418 стар. Тыраж 10.500 экз. Цана 94 кап.

**В. Зуёнак. Сяліба.** Вершы і паэма. Мастак В. Батура. 1973 г. 96 стар. Тыраж 6.000 экз. Цана 37 кап.

**Б. Кербабаеў. Вясёлыя Джапбані.** Аповесць. Пераклад з туркменскай В. Рудавай. Малюнкі А. Шэверава. 1973 г. 104 стар. Тыраж 7.000 экз. Цана 26 кап.

**А. Куляшоў. Мая Бесядзь.** Лірыка. Серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі». Франтыспіс А. Кашкурэвіча. 1973 г. 176 стар. Тыраж 7.500 экз. Цана 63 кап.

**Літаратурная Беласточчына.** Вершы і апавяданні. Мастак Г. Шэлег. 1973 г. 120 стар. Тыраж 2.000 экз. Цана 52 кап.

# ЖАНРУ І АЎТАР

*НАТАТКІ ПРА СЕННЯШНЮЮ ДЗІЦЯЧУЮ АПОВЕСЦЬ*

Наогул, узаемаадносіны дзяцей і дарослых у аповесці трымаюцца на выпадковых сувязях. Дзеянне заканчваецца гэтак жа нечакана, як і разгортваецца. Бандыта злавілі, а дзеці зноўку прадстаўлены самі сабе. Старшыня калгаса Самохін гаворыць ім: «Создавайте свой музей, хорошее дело начали...». І далей: «Он взмахнул, прощаясь, рукой и пошел дальше».

Дакладна гэткі, можа з большай загадкавасцю, сюжэт прапаноўваюць і іншыя аўтары. Што гэта сапраўды так, найлепш сведчыць аповесць «Загадка без адгадкі». Калі У. Старчанка робіць толькі першыя крокі ў літаратуры, дык аўтар другой аповесці Міхась Зарэмба—у літаратуры не навічок. Тым не меней абодвум бракуе самастойнасці ў раскрыцці тэмы. Іх творы вельмі падобныя паміж сабой хадульнымі сюжэтамі.

Каб не пераказваць змест твора М. Зарэмбы, спашлемся на рэдакцыйную анатацыю: «Два сябры-чацвёракласнікі Шурык Бобрыкаў і Мечык Аплікоў, якія жывуць у невялічкай вёсцы Букча, знайшлі ў лесе патрон з запіскай. Запіска выцвіла ад часу, і хлопчыкі прачыталі толькі яе пачатак...» Аб пошуках школьнікаў і расказваецца ў аповесці.

Тэма гераічная, але кніга нічога новага чытачу не дае. Ды і «адкрыць» штосьці новае тут проста немагчыма, таму што сюжэт будуецца па штучнай схеме. Як і ў іншых аўтараў, у М. Зарэмбы. дзеці спачатку самі спрабуюць ва ўсім разабрацца, аб іх турботах нічога не ведаюць ні бацькі, ні настаўнікі.

Шчыра скажам, не шанцуе аўтару і з мовай. Каб упэўніцца, наколькі яна далёкая ад жывой дзіцячай натуральнай гаворкі, прывядзём прыклады: «нібы вунь які **начальнік**, — не падступіцца» (пра аднакласніцу), «**нібы вадой** захліпнулася», «мог бы гэтую Тому-ябеду на **горкі яблык збіць**. Ну, калі не на горкі, то ўжо **мышыныя коскі** з бантамі павырываў бы адразу...», «Яна настаўнічае першы год... Маладзенькая такая, — вунь у дзесяцігодку большыя за яе ходзяць». Заўважым, што так гаворыць герой-чацвёракласнік.

Або яшчэ красамоўнасці: **«пылляя касавокае»**, **«як** у пабітага **сабачаняці»**, «а больш **дохленькай троечкі** выціснуць не можа».

Прыкладам больш удалага спалучэння гераічнага і паўсядзённага можа служыць аповесць Лідзіі Арабей «Сіні бор». Падзеі даўнія ў ёй пераплятаюцца з тымі, што адбыліся зусім нядаўна. Прыемна, што аўтар адмовілася ад традыцыйнага сюжэта пра тых самых шпіёнаў, якіх нават незнарок выкрываюць і абясшкоджваюць юныя героі.

Праўда, і для героя «Сіняга бора» Косціка таямнічае хутка разгадваецца. Ён адразу даведваецца, што цыбаты чалавек з аўтаматам, якога хлопчык нечакана сустрэў у лесе, ніякі не фашыст, а артыст, і што ў лесе здымаецца фільм пра вайну.

Па-свойму вырашае тэму Даір Слаўковіч у аповесці «Хвядоскавы канікулы». Герой яго твора — гарадскі хлопчык летам прыязджае ў вёску да сваякоў. Для яго адкрываецца зусім іншы, незнаёмы з маленства свет. Хвядоска знаёміцца з суседскімі дзецьмі, разам з імі адкрывае для сябе шмат цікавага і незвычайнага. Але ўсе гэтыя адкрыцці не падобныя на нейкія там незвычайныя прыгоды, пошукі здраднікаў і шпіёнаў. Юныя чытачы па-новаму зірнуць на знаёмыя ім факты і з'явы. Хвядоска разам з дарослымі «ходзіць» на работу, ён знаёміцца з людзьмі розных сельскіх прафесій. Шмат цікавага расказвае хлопчыку яго дзядзька-ляснік, сакрэты сваёй работы раскрываюць шафёр, трактарыст.

У творы няма прыгод, ды ёсць жыццё, няпростае, складанае. Пісьменнік выхоўвае свайго героя, ён вучыць яго не пасаваць перад першымі цяжкасцямі. Праўдзівасць характараў, мяккая манера пісьма — усё гэта, безумоўна, робіць аповесць Д. Слаўковіча цікавай, карыснай для чытача.

Як бачым, для таго, каб твор атрымаўся займальным, не абавязкова ставіць герояў у незвычайныя сітуацыі, важна аўтару толькі на нейкі момант уявіць сябе на месцы дзіцяці, дастаткова глянуць на свет яго вачыма, зацікавіцца пытаннямі, якія яго непакояць.

Як тут не прыгадаць словы з аўтарскай прадмовы да цікавай аповесці П. Місько «Навасёлы»: «...нялёгка быць малым, адстойваць сваё «я». Бо на кожным кроку з табой абавязкова што-небудзь здараецца, і толькі на погляд дарослых яно дробязнае».

Гэтыя словы з поўным правам можна аднесці і да аповесці Уладзіміра Машкова «Я сам», якая адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту. Як і героі П. Місько, хлопчык Ягорка з кніжкі У. Машкова упершыню пачынае адстойваць сваё «я». Пісьменнік добра ведае дзіцячую псіхалогію. Яго аповесць, як і папярэднія творы пісьменніка, напісана на высокім мастацкім узроўні. Яна з тых кніжак, якія становяцца добрымі сябрамі дзяцей.

Наўрад ці можа быць для дзіцячага пісьменніка больш удзячным, чым пісаць аб вучобе школьнікаў, іх паўсядзённых справах. У аповесцях «Я сам» У. Машкова, «Хвядоскавы канікулы» Д. Слаўковіча, «Сіні бор» Л. Арабей аўтары дасягаюць пэўных поспехаў у гэтым кірунку. І менш шанцуе цікава расказаць пра сённяшняе жыццё школьнікаў ужо знаёмым нам аўтарам У. Старчанку і М. Зарэмбу. Яны нібы знарок збочваюць, калі ёсць магчымасць і неабходнасць звярнуць увагу на вучобу герояў, або гавораць пра гэта так, што напісанае не зробіць станоўчага ўплыву на чытача.

І яшчэ аб адным, думаецца, нельга, недаравальна забываць. Кнігі на школьную тэматыку — гэта не толькі расказ пра вучобу школьнікаў. Школа — гэта і праца на прышкольным участку, і шэфства над ветэранамі вайны, і адпачынак. Інакш кажучы, паўсядзённае жыццё ва ўсіх яго праявах. Жыццё дзяцей са сваімі законамі, клопатамі, радасцямі і трывогамі. Вядзе юных у гэты імклівы свет — н а с т а ў н і к.

Але менавіта ён пакуль што рэдкі госць у дзіцячых кнігах. Калі і з'яўляецца на старонках твора, то не надоўга. Нам здаецца, што гэта неапраўдана і недаравальна. Як слушна заўважыў С. Міхалкоў, «хочацца, каб настаўнік часцей станавіўся героем аповесцей, апавяданняў, паэм, спектакляў і фільмаў. Прытым, менавіта героем, а не проста персанажам, гэта значыць, каб выступаў ён у мастацкіх творах тым самым чалавекам безупыннага творчага пошуку і глыбокіх думак, якім ён з'яўляецца на самой справе».

Пра важнасць дзіцячай літаратуры яскрава сказана і ў Пастанове ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай дзіцячай літаратуры». У ёй указваецца на неабходнасць стварэння твораў, «якія будуць выхоўваць у дзяцей адданасць камуністычным ідэалам, любоў да Радзімы, высокія маральна-этычныя якасці, пачуццё пралетарскага інтэрнацыяналізму і дружбы народаў, працавітасць, цікавасць да ведаў».

Прыгадваецца — герой адной з аповесцей мінулага года разважае так: «Восень. Ну і падакучае яна сваімі дажджамі, нуднымі, быццам нецікавая кніга. А нецікавыя кніжкі — заўсёды доўгія».

Не трэба нам нецікавых кніг — ні «доўгіх», ні «кароткіх». Нам патрэбны творы, напісаныя на ўзроўні тых высокіх патрабаванняў, якія прад'яўляў дзіцячай літаратуры Максім Горкі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# Уладзімір Іосіфавіч ДЗЯДЗЮШКА



## АД ЦК КПБ, ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР І САВЕТА МІНІСТРАЎ БССР

**Цэнтральны Камітэт КПБ, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і Савет Міністраў БССР з глыбокім жалем паведамляюць, што 30 сакавіка 1973 года пасля цяжкай, працяглай хваробы на 69 годзе жыцця памёр вядомы майстар савецкай сцэны, член КПСС, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, народны артыст Савецкага Саюза Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка.**

| ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КП БЕЛАРУСІ | ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР | САВЕТ МІНІСТРАЎ БССР |
|---|---|---|

САВЕЦКАЕ ТЭАТРАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА панесла цяжкую страту. Пасля працяглай хваробы памёр вядомы майстар савецкай сцэны, член КПСС, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, народны артыст СССР Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка.

Нарадзіўся У. І. Дзядзюшка ў Мінску ў 1905 годзе. Сваю сцэнічную дзейнасць пачаў у 1923 годзе ў Трэцім Беларускім тэатры, а з 1937 года нязменна працаваў у Беларускім дзяржаўным ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Уладзімір Іосіфавіч — акцёр яркі, глыбока народны, які валодаў вялікім сцэнічным абаяннем. Псіхалагічная прырода ствараемых ім вобразаў у спалучэнні з уласцівай яго творчасці выразнасцю, праўдзівасцю, прыгажосцю і тонкім гумарам вылучылі У. І. Дзядзюшку ў рады буйных талентаў беларускай сцэны.

За сваё багатае творчае жыццё ён сыграў больш як сто роляў. Яго Крыніцкі («Паўлінка»), Язэп («Салавей»), Крушына («Канстанцін Заслонаў»), Пытляваны («Пяюць жаваранкі») і многія іншыя створаныя ім сцэнічныя вобразы вызначаюцца псіхалагічнай абгрунтаванасцю і шчырай праўдзівасцю, велізарнай сілай эмацыянальнага ўздзеяння. Шмат яркіх роляў ён сыграў у савецкіх фільмах.

За вялікія заслугі ў развіцці савецкага тэатральнага мастацтва У. І. Дзядзюшка ўдастоены звання народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, узнагароджаны ордэнам Леніна, медалямі і ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета БССР.

Усе, хто ведаў Уладзіміра Іосіфавіча, бачылі ў ім вялікага майстра і сціплага працаўніка, актыўнага грамадскага дзеяча, камуніста, які беззапаветна аддаваў усе свае сілы служэнню народу.

Светлая памяць аб Уладзіміру Іосіфавічу Дзядзюшку назаўсёды застанецца ў сэрцах шматлікіх паклоннікаў.

**П. М. МАШЭРАЎ, Ф. А. СУРГАНАЎ, Ц. Я. КІСЯЛЁЎ, А. Н. АКСЁНАЎ, Л. Г. КЛЯЦКОЎ, А. Т. КУЗЬМІН, У. Е. ЛАБАНОК, У. Ф. МІЦКЕВІЧ, М. Н. ПОЛАЗАЎ, І. Я. ПАЛЯКОЎ, А. А. СМІРНОЎ, М. І. ЛАГІР, Я. П. НІКУЛКІН, У. І. ПАДРЭЗ, І. М. ТРАЦЦЯК, І. Ф. КЛІМАЎ, Н. Л. СНЯЖКОВА, С. В. МАРЦАЛЕЎ, М. М. СЛЮНЬКОЎ, М. В. КАВАЛЁЎ, Т. Ц. ДЗМІТРЫЕВА, Г. Г. ЯРШОЎ, К. К. КРАПІВА, Л. П. АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ, З. І. БРАВАРСКАЯ, І. І. ЖЫНОВІЧ, У. У. КОРШ-САБЛІН, А. І. КЛІМАВА, А. Я. МАКАЁНАК, У. В. МАЦВЕЕЎ, І. П. МЕЛЕЖ, І. Ф. МІХАЛЮТА, Ю. М. МІХНЕВІЧ, П. С. МАЛЧАНАЎ, Т. М. НІЖНІКАВА, Я. М. ПАЛОСІН, С. М. ПУЦЫЛЕЎ, В. С. ПРАТАСЕНЯ, Л. Г. РАХЛЕНКА, Л. І. РЖЭЦКАЯ, З. Ф. СТОМА, М. ТАНК, Г. І. ЦІТОВІЧ, І. П. ШАМЯКІН, Р. Р. ШЫРМА.**

**Міністэрства культуры БССР, Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры, Беларускае тэатральнае аб'яднанне глыбока смуткуюць аб смерці члена КПСС, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, народнага артыста СССР Уладзіміра Іосіфавіча ДЗЯДЗЮШКІ і выказваюць спачуванне сваякам і блізкім нябожчыка.**

**Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з глыбокім жалем паведамляе аб смерці дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, народнага артыста СССР ДЗЯДЗЮШКІ Уладзіміра Іосіфавіча і выказвае шчырае спачуванне сям'і і блізкім.**

**Калектыў Беларускага тэатра юнага гледача глыбока смуткуе з прычыны смерці выдатнага майстра сцэны, народнага артыста СССР Уладзіміра Іосіфавіча Дзядзюшкі.**

## У АПОШНІ ШЛЯХ

*МІНСК РАЗВІТВАЕЦЦА З УЛАДЗІМІРАМ ІОСІФАВІЧАМ ДЗЯДЗЮШКАМ*

У панядзелак, 2 сакавіка, працоўныя сталіцы, работнікі мастацтва, пісьменнікі, шматлікія гледачы тэатра развітваліся з выдатным беларускім акцёрам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР, дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, народным артыстам СССР Уладзімірам Іосіфавічам Дзядзюшкам.

З 10 гадзін раніцы да тэатра імя Янкі Купалы, дзе была ўстаноўлена труна з целам нябожчыка, няспынным патокам ішлі прадстаўнікі грамадскасці. Сказаць апошняе «бывай» выдатнаму майстру беларускай сцэны ішлі таварышы і сябры, паплечнікі па мастацтву, людзі, якіх Уладзімір Іосіфавіч добра ведаў, разам з якімі працаваў.

Ускладаюцца вянкі і жывыя кветкі ад прадпрыемстваў, устаноў, творчых арганізацый, ад сяброў і блізкіх нябожчыка.

Гучаць жалобныя мелодыі. У ганаровай варце змяняюць адзін аднаго прадстаўнікі фабрык і заводаў, артысты, пісьменнікі, мастакі...

...13 гадзін. У ганаровай варце — сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў, сакратар Мінскага гаркома КПБ Т. Ц. Дзмітрыева, намеснік загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Я. Б. Парватаў, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, пісьменнікі І. П. Шамякін, А. Я. Макаёнак, члены камісіі па арганізацыі пахавання.

Намеснік міністра культуры БССР А. М. Ваніцкі адкрывае грамадзянскую паніхіду. Ён адзначае вялікі ўклад, які Уладзімір Іосіфавіч унёс у скарбніцу савецкага тэатральнага мастацтва, гаворыць пра яго заслугі як грамадзяніна і патрыёта сацыялістычнай Бацькаўшчыны.

З развітальнымі словамі на паніхідзе выступілі народная артыстка БССР З. І. Браварская і драматург А. Макаёнак.

Грамадзянская паніхіда закончана. Пахавальнае шэсце накіроўваецца на могілкі.

Пад гукі жалобнай музыкі труна з целам Уладзіміра Іосіфавіча Дзядзюшкі апускаецца ў зямлю. Магільны ўзгорак патанае ў вянках і кветках.

# НЕЗАБЫЎНЫ

Яшчэ студэнтамі, калі прафесійная сцэна была нашай марай і запаветнай мэтай, мы палюбілі і ўзялі за ўзор ігру і нават стыль жыцця ў мастацтве Уладзіміра Іосіфавіча Дзядзюшкі. Ён увасабляў для нас тыя рысы сапраўды творчага чалавека тэатра, якія маюць канкрэтную назву, і яна, гэтая назва, адразу ж аб многім гаворыць кожнаму: купалаўцы. Здавалася, нібы ён быў купалаўцам заўсёды. Так арганічна і натуральна то ў галоўных, то ў эпізадычных ролях выступаў гэты артыст у ансамблі выдатных акцёраў Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Пазней, вывучаючы гісторыю станаўлення беларускага нацыянальнага тэатра, мы даведаліся, што не адразу Уладзімір Іосіфавіч узняўся на славутыя падмосткі Першага БДТ, што спачатку былі гады вандраванняў па ўсёй Беларусі ў складзе «трупы Галубка», тэатра, які яшчэ меў назву Трэці БДТ. Калектыў на чале з энтузіястам Уладзіславам Галубком далучаў да мастацтва мільёны сялян, рабочых. Пешшу, на грузавіках і на вазах, на маторных лодках і на адкрытых чыгуначных платформах яны прамералі родны край, і ўсюды пакідалі аб сабе добры ўспамін, бо ігралі цікавы, разнастайны рэпертуар. І дагэтуль нашы старэйшыя таварышы ўспамінаюць легендарны поспех такіх спектакляў галубкоўцаў, як «Мой сябра» М. Пагодзіна, «Гадзіншчык і курыца» І. Качаргі, «Дыктатура» і «Дзяўчаты нашай краіны» І. Мікітэнкі, «Чужое дзіця» В. Шкваркіна, «Сержант Дроб» Эд. Самуйлёнка. Разам з Ул. Галубком, А. Згіроўскім і К. Былічам Уладзімір Іосіфавіч Дзядзюшка выступаў у галоўных ролях лепшых твораў тагачаснага рэпертуару.

Мабыць на тых пуцявінах і скрыжаваннях вандроўных дарог многае прызапасіў для сябе Дзядзюшка-артыст. Чалавек ён быў надзвычай назіральны і ўдумлівы. Яго веданне рэальнага жыцця не мела нічога агульнага з так званым «кніжным» уяўленнем. Шчодра адораны ад прыроды, ён і на акадэмічнай сцэне здзіўляў і радаваў калег жывой непасрэднасцю сваіх знаходак. І тое, як Уладзімір Іосіфавіч «браў» характар, асобныя дэталі ў паставе, інтанацыях, нюансах яго персанажаў звычайна былі нечаканымі нават для рэжысуры, а потым, калі спектакль «абкатваўся» на гледачах, выглядалі адзіна магчымымі і правільнымі.

Больш таго — тысячы гледачоў інакшымі і не маглі «бачыць» таго ж, скажам, Крыніцкага з дзівосным і такім блізкім да песні воклічам «Каханенькая, родненькая!..», або Пытляванага з камедыі «Пяюць жаваранкі» К. Крапівы, рабочага Крушыну (Дзядзюшкавы словы, звернутыя да Заслонава: «Кастусёк, ты, значыцца, з намі?» — незабыўныя па шчырасці!), або Моцкіна з Макаёнкаўскай сатыры «Выбачайце, калі ласка!» Цяпер, калі мы сталі артыстамі таго ж тэатра, у нас, відаць, ёсць права сказаць, што гэтыя — ды і ці адно гэты?! — ролі іграліся артыстам унікальна. У кожнага персанажа быў важкі жыццёвы грунт і выразная, часамі завостраная да гратэску (Моцкін, напрыклад) форма. І ніякай «тэхнікі»: мы ніколі не адчувалі, што Уладзімір Іосіфавіч «будуе» скразную лінію паводзін на сцэне, што ён «ужываецца» ў матэрыял драматурга. От жыве сабе такі Крушына ці Іларыён («Я, бабуся, Іліко і Іларыён») — дый годзе...

Адна з апошніх яго роляў нават назву мела адкрыта «эпізадычную» — гэта Першы пажылы мужчына ў «Традыцыйным зборы» В. Розава. Паводле спектакля, гэты персанаж успрымаўся чалавекам, які яшчэ носіць у сэрцы водгулле грамадзянскай вайны, рамантыку незабыўнай пары змагання за Савецкую ўладу. І часта здаралася так, што і мы, удзельнікі «Традыцыйнага збору», з унутраным хваляваннем слухалі, як Дзядзюшкаў Пажылы мужчына спяваў (хай сіплаватым, пракураным і на сцюдзёных вятрах сапсаваным галасам!) будзёнаўскую песню былых гераічных рэйдаў. Штосьці запаветнае перадаваў Уладзімір Іосіфавіч, калі ўзмахваў нібы «шабляй» і адчуваў пад сабой гарачага каня... Подых біяграфіі, якой чалавек справядліва ганарыцца, не дэманструючы гэтага, раптам уваходзіў у атмасферу сцэн з удзелам гэтага тактоўнага ў вышэйшым сэнсе слова артыстам, з удзелам Дзядзюшкі.

Тактоўны... Так, ён застанецца ў нашай памяці тактоўным таварышам. Уладзімір Іосіфавіч бываў бязлітасна патрабавальным да сябе і да калег, яго хвалявалі рэпертуар і маральнае аблічча кожнага новага купалаўца, здаралася, штосьці яго абурала, ён нерваваўся. Аўтар сапраўды класічных сцэнічных вобразаў, адзін з першых майстроў трупы, ён і ўсхвалявана застаюся ўважлівым і нават далікатным ва ўзаемаадносінах з тымі, з кім стварэў славу акадэмічнай беларускай сцэне і каго прымаў як змену сабе і сваім аднагодкам-ветэранам. Ён уплываў на клімат творчага жыцця калектыву сваім прыкладам аданага служэння тэатру. Яму былі дарагімі і нават свяшчэннымі этычныя нормы паводзін савецкага артыста. Па маштабах зроблянага ім у мастацтве мы ставім Уладзіміра Іосіфавіча побач з Уладзімірам Крыловічам, Глебам Глебавым, Барысам Платонавым, Уладзімірам Уладамірскім, карыфеямі купалаўскага калектыву.

Балюча думаць, што яго няма з намі, што ніколі не пачуем мы яго задушэўнага слова, што наша сцэна згубіла такі вялікі талент...

**Генадзь АЎСЯНІКАЎ,**
**Павел ДУБАШЫНСКІ,**
заслужаныя артысты БССР.

# НЕ МАГУ З ТАБОЙ РАЗВІТАЦЦА, ВАЛОДЗЯ...

Вельмі многае зрадніла нас з табой, мой дружа, каб мог я знайсці развітальныя словы. Не таму, што мой сын і твая дачка — стрыечныя брат і сястра. Сябруем мы сорак гадоў. Бясконцыя роздумы і гаворкі аб творчым жыцці і нашым месцы ў гэтым жыцці, сустрэчы ў маёй майстэрні і ў тваім тэатры... Без гэтага я і не магу думаць аб часе і аб сабе.

Зрадніла і тое, чаго я не магу забыць,— створаны табой Крушына, які ўзнёсла пранёс праз увесь спектакль пра Заслонава душу рабочага чалавека, сапраўднага чалавека.

Табе выпала быць вандроўным акцёрам разам з Галубком і выступаць у самых глухіх некалі кутках Беларусі, адкрываючы людзям хараство і веліч праўды жыцця. Колькі сталых цяпер людзей гавораць табе дзякуй і за гэты працоўны подзвіг!

Не магу забыць, што нямы месяцы з табой у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР — побач.

Твая чалавечая і грамадзянская заклапочанасць справамі народа была натуральнай і неад'емнай ад цябе. Ты гэтым жыў як артыст, гэта стала і тваёй істотай — дэпутата, народнага абранніка.

Ты — мой сябра, мой верны таварыш. Ты — з тых, з кім звычайна людзі не развітваюцца. Бачу я цябе ці не, чую твой голас ці не, ты ўсё роўна нібы побач са мной, у маёй майстэрні, у маёй хаце.

Мабыць, так думаю ў гэтыя жалобныя дні не я адзін. Без цябе нельга ўявіць сабе тэатр, трупу купалаўцаў. Купалавец ты не па афіцыйнай назве, а па сутнасці тваёй творчасці. Тэатр застанецца тваім домам, твае сябры — тваімі творчымі аднадумцамі. Без цябе — ці ж будзе «Паўлінка» той, якую мы любім, якая нясе нам радасць!.. Ты — аўтар таго хараства, якое ўваходзіла ў кожную з тых роляў, што ты іграў на сцэне. І гэта было ад сэрца, ад прыроды тваёй, прыгожы чалавеча, і таму ніхто ніколі не гаварыў аб тваім вынаходлівым майстэрстве — проста ты быў і застаешся ДЗЯДЗЮШКАМ. Нікім іншым ты быць не мог і не ўмеў. Хоць пакінуў у летапісе сцэны сузор'е арыгінальнейшых персанажаў, непаўторных тыпаў...

Калі мы хаваем чалавека, мы нібы вяртаем зямлі яе сына. А зробленае ім застаецца з жывымі, не паміраё, не знікае... Такі і ты, Валодзя! Вялікі сын сваёй зямлі, удзячны сын, незабыўны...

**Заір АЗГУР,**
народны мастак БССР.

# БЕЛАРУСІ АДДАНЫ СЫН

Не магу забыць тых паштовак, што атрымліваў ад Уладзіміра Дзядзюшкі ў часе вайны: ён чакаў і патрабаваў, каб я не затрымліваў і адсылаў тэрмінова ў Томск, дзе тады выступаў Першы БДТ, свежыя нумары беларускіх газет і часопісаў, асабліва «Раздавім фашысцкую гадзіну». Тым часам мне здавалася зусім натуральным, што вучань гэтага выдатнага артыста акцёр А. Ціто ў і ў партызанскім атрадзе заставаўся акцёрам, паказваў сцэны з рэпертуару Ул. І. Дзядзюшкі народным мсціўцам і жыхарам вызваленых вёсак. Мабыць, аб гэтым я паведаміў яму пасля вайны, і ён неяк добра ўсміхнуўся, відаць, узрадаваны, што ў яго быў такі вучань...

Помню, як без напышлівых слоў сябравалі яны—Эдуард Самуйлёнак і Уладзімір Дзядзюшка. Калі Эдуард пісаў п'есу «Сержант Дроб» для Трэцяга БДТ (для «трупы Галубка»), то першым яго мастацкім дарадчыкам быў Дзядзюшка. Яны гадзінамі сядзелі над рукапісам і абмяркоўвалі, як будзе глядзецца на тэатральных падмостках тая або іншая мізансцэна, як прагучыць рэпліка ў вуснах выканаўцы ролі (хто каго будзе іграць «раз-мяркоўваў» Уладзімір Іосіфавіч, і потым паказваў сам, як будзе выглядаць выкананне тым ці іншым акцёрам). Нейкія таямніцы сцэнічнага мастацтва Эдуард Самуйлёнак адкрываў для сябе пад уплывам Дзядзюшкі, хоць той трымаўся знарок «у цэнію» і нікому не казаў, што мае дачыненне да нараджэння «Сержанта Дроба».

Калі я глядзеў спектаклі па п'есах К. Крапівы, А. Маўзона і А. Макаёнка, дзе з такім своеасаблівым—дзядзюшкавым! — бляскам выступаў гэты артыст, міжволі думалася аб тым, што і тут ён — саюзнік, дарадчык, сааўтар драматурга. Ён жа ўмеў дзівосна «жыць у вобразе» і тады, калі ў яго не было тэксту, калі яго Пытляваны, Крушына або Моцкін моўчкі назіралі за тым, што адбываецца, слухалі партнёраў, аднымі вачыма спрачаліся ці згаджаліся з іншымі дзейснымі асобамі.

Так—ён быў майстрам і паўз. Сачыць за тым, як перажывае ўсе прыгоды ў сваёй хаце Крыніцкі, напрыклад, нават «без слоў» — гэта таксама было асалодай.

Прыгадваю яшчэ і такі выпадак. Мяне папрасілі ўкраінскія сябры памагчы ім сабраць успаміны пра вядомага драматурга Івана Мікітэнку. Зразумела, першым чынам я звярнуўся да Дзядзюшкі: ён жа іграў у «трупе Галубка» ў спектаклях «Дыктатура» і «Дзяўчаты нашай краіны». Пабурчэў ён трохі («Які з мяне мемуарыст?!» — кінуў у тэлефон), але напісаў слова сардэчнае, усхваляванае, дакладнае. І я адчуў хараство яго чалавечай душы зноў: ён умеў шчыра сябраваць, без рытарычных прызнанняў і пацалункаў. Яму былі дарагімі ўсе, хто разам з ім аддаваў талент роднаму народу, памнажаў багацце нашай культуры.

Дзядзюшка — мінчанін. І хоць амаль пятнаццаць гадоў лёс кідаў па шляхах і трактах Беларусі, ён заўсёды лічыў абавязковым для сябе пасля далёкіх вандровак абысці горад— ад Грушаўкі да Камароўкі, ад Старажоўкі да Ляхаўкі. З ім віталіся сотні мінчан, бо ведалі ў твар гэтага чарадзея беларускай сцэны...

«Любіў»... «ведалі»... «быў»... Балюча і горка гаварыць пра такога чалавека гэтыя словы. Ён з тых, каму наканавана доўгая памяць у сэрцах людзей. З тых, хто застаецца з намі.

**Анатоль АСТРЭЙКА.**

## ТАКІМ ЯГО ПАМЯТАЕМ



Сцяпан Крыніцкі («Паўлінка»).



Крушына («Канстанцін Заслонаў»).



Пытляваны («Пяюць жаваранкі»).



Чарнушка («Людзі на балоце»).



Іларыён («Я, бабуся, Іліко і Іларыён»).

# І ТАК—40 ГАДОЎ...

ФАТАГРАФІЯ НАГАДАЛА



Мабыць, не толькі мы, артысты, пабачыўшы гэты архіўны здымак, прыгадаем незабыўныя для аматараў сцэнічнага мастацтва дні, калі ў Беларусі пастановай ўрада быў арганізаваны яшчэ адзін рэспубліканскі тэатр — Рускі драматычны тэатр БССР, які цяпер носіць імя Максіма Горкага. Грамадскасць яшчэ тады, на самым пачатку дзейнасці. новага творчага калектыву, адзначала, што ў стварэнні яго вялікая роля належыць выдатнаму артысту Уладзіміру Уладзіміравічу Кумельскаму (дарэчы, яму першаму сярод акцёраў рускай сцэны нашай рэспублікі было прысвоена ганаровае званне заслужанага артыста БССР). Ён і паставіў спектакль «Ягор Булычоў і іншыя», сцэну з якога вы бачыце на здымку.

Кіраўнік Рускага тэатра БССР 30-х гадоў быў дасведчаным і вопытным майстрам. Пачаўшы артыстычную кар'еру 19-цігадовым юнаком, Уладзімір Кумельскі прахо дзіў школу на падмостках тэатраў ад Архангельска да Астрахані, ад Масквы да Уладзівастока. выступаў на сцэнах Масквы (тэатр Корша і Малы). З 1927 года ён звязаў свой лёс з мастацтвам Беларусі, з'яўляючыся кіраўніком і вядучым акцёрам вандроўных труп. У некралогу з прычыны смерці У. У. Кумельскага падкрэслівалася, што «бадай, няма такога горада або мястэчка на Беларусі, дзе не ведалі б таленавітага артыста».

З самага пачатку дзейнасці Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР гэты рэжысёр прыкладаў намаганні, каб рэпертуар трупы быў змястоўным і цікавым. Лепшыя п'есы савецкіх драматургаў і класікаў былі пастаўлены тады — ад Л. Ляонава і Ус. Вішнеўскага да Мальера і Чэхава. Першая (і, здаецца, адзіная) інсцэніроўка рамана «Вязьмо» М. Зарэцкага была падрыхтавана аўтарам сумесна з трупай Кумельскага.

«Ягор Булычоў і іншыя»—спектакль, які цяпер, праз сорак гадоў, прыгадваецца нам радаснай падзеяй у тагачасным тэатральным жыцці рэспублікі, можна лічыць этапным. Тут калектыў праявіў творчую сталасць і ўменне пасучаснаму асэнсоўваць складаныя праблемы ідэйна-мастацкага плана. Магчыма, высокі ўзровень рэжысуры і акцёрскага выканання гэтага, аднаго з першых на афішы Рускага тэатра БССР, твора выдатнага пралетарскага пісьменніка і было падставай для прысваення пазней тэатру імя М. Горкага.

У адпаведнасці з задумай аўтара, рэжысура і выканаўцы паказвалі праз смерць героя асуджанасць старога свету, усёй буржуазнай дзяржаўнай сістэмы, капіталістычнага ладу. На схіле жыцця купец Ягор Булычоў, якога так маляўніча і маштабна іграў Ул. Кумельскі, «выламваецца» з асяроддзя, адчувае, што ўсё жыццё пражыў «не па той вуліцы». Ён шукаў і дапытліва імкнуўся зразумець праўду рэвалюцыйных сіл, здагадваючыся, што яны пераногуць і пераробяць Расію па невядомых яму справядлівых законах. Тэмпераментны і валявы, гарачы і пяўрымслівы, гэты Булычоў — Кумельскі выглядаў інтэлектуальна багатым чалавекам. Зразумела, тут выканаўца галоўнай ролі зыходзіў з той трактоўкі вобраза, што даваў славуты Барыс Шчукін на вахтангаўскай сцэне (вядома, што яго Булычоў быў ухвалены М. Горкім). Але гэта не было механічным перайманнем: Ул. Кумельскі і яго партнёры творча, самастойна трактавалі асобныя кульмінацыйныя мясціны п'есы і стваралі агульную атмасферу, улічваючы наяўныя артыстычныя індывідуальнасці ў трупе

З той пары Рускі тэатр БССР паказаў і паказвае часамі надзвычай арыгінальныя спектаклі па п'есах пісьменніка, чыё імя пазначана на франтоне яго будынка. У гісторыі горкаўскіх пастановак «Варвараў», напрыклад, літаратуразнаўцы і крытыкі і дагэтуль адзначаюць смелае «прачытанне» драмы рэжысёрам В. Фёдаравым з удзелам выдатных артыстаў Я. Палосіна, Г. Абуховіч, Р. Качаткова, Я. Карнавухава, В. Галіны. На мінскай сцэне ў выкананні рускіх акцёраў прадставалі «Мяшчане», «Васа Жалязнова», «Дзеці сонца» (апошняя ставілася тры разы за трыццаць гадоў—упершыню ў 1937 г.).

Захоўваючы традыцыі, закладзеныя яшчэ Ул. Кумельскім, калектыў пад кіраўніцтвам Д. Арлова, С. Уладычанскага, В. Фёдарава і В. Рэдліх паставіў шэраг спектакляў вялікага грамадзянскага гучання і даў арыгінальную трактоўку класічным творам. Варта, скажам, разгарнуць такія старонкі яго гісторыі, як тыя, дзе ў святле рампы жывуць героі «Як гартавалася сталь», або «Брэсцкай крэпасці», «Караля Ліра» і «Антонія і Клеапатры», «Дзядзі Вані» і «Цара Фёдара», «Узнятай цаліны» і «Антымістычнай трагедыі», «Улады цемры» і «Дзяцей Ванюшына»,—і перад вачыма зноў узнікнуць хвалюючыя вобразы і незабыўныя сцэны. Быў зроблены і ўклад у сцэнічную Лeнініяну — напярэдадні вайны Рускі тэатр БССР паставіў «Крамлёўскія куранты» М. Пагодзіна, дзе ў ролі У. І. Леніна выступаў народны артыст БССР Д. Арлоў.

...Глядзім на здымак саракагадовай даўніны. Так, гэта быў публіцыстычна яркі спектакль. Ён хваляваў, выклікаў сярод публікі спрэчкі (помніцца, камсамолія тых гадоў не магла пагадзіцца з тым, што купец Булычоў часам абуджаў у гледачоў сімпатыі!), на яго з цікавасцю хадзілі і ў Магілёве, дзе тады стала працаваў тэатр, і ў Мінску ў часе гастроляў летам трыццаць трэцяга года. Прыгадваюцца выканаўцы ролей, вартыя партнёры Ул. Кумельскага — Г. Захарава (Глафіра), М. Бакарова (Ксенія), В. Баскакава (Шурка), і той непаўторны настрой творчага ўздыму, з якім заўсёды рыхтаваліся да чарговага паказу ўсе ўдзельнікі «Ягора Булычова і іншых».

Вось аб чым нагадаў мне, вучню і былому артысту трупы Ул. Кумельскага, архіўны здымак сцэны аднаго з першых спектакляў Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра БССР.

**Іван ЛІСНЕЎСКІ,**
**рэжысёр Беларускага радыё.**

Дзівосная па прыгажосці тэма, якую спяваюць ва унісон скрыпкі і віяланчэлі, зачароўвае слухачоў. Цішыня, што пануе ў зале філармоніі, нагадвае тую, аб якой гавораць — свяшчэнная. А са сцэны льецца, струменіць мелодыя непаўторнага хараства...

То рухавы, то стрыманы, гэты каржакаваты, з пышнай чупрынай русых валасоў дырыжор вядзе за сабой музыку. Выразныя рукі, дакладныя жэсты. Ніякага пазёрства: дзеля яснасці ён нават ахвяруе некаторымі тонкасцямі ў дырыжорскай тэхніцы. Зала слухае музыку. Кіраўнік аркестра не «прышпільвае» іх да дырыжорскай палачкі, але яго воля перадаецца артыстам то імпульсіўна, то амаль непрыкметна. Здаецца, у іх адзіны подых...

У сферы музыкі драматычнай, эмацыянальнай, палымянай — самыя вялікія ўдачы Ю. Яфімава (цяпер ён галоўны дырыжор Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР).

Іаганес Брамс... Адзін выдатны дзеяч гаварыў, што любы твор Брамса — гэта закапаны скарб: хто яго знойдзе, здабудзе нечуванае багацце. Яшчэ ў 1966 годзе на конкурсе дырыжораў у Маскве за выдатнае выкананне Другой сімфоніі гэтага кампазітара Юрыю Яфімаву быў прысуджаны дыплом. І выкананне гэтага твора Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам Ю. Яфімава адкрыла для мінчан менавіта такое багацце: здавалася, што твор гучыць упершыню ў хараства ўсіх «падтэкстаў».

**Цяжкасць выканання «заігранага» класічнага твора ў тым, што слухачам у ім вядома «кожная нота». Выдатныя папярэднікі ствараюць пэўныя традыцыйныя трактоўкі і нярэдка аказваюць на маладых дырыжораў псіхалагічны ўплыў, які скоўвае іх фантазію. Беларускі дырыжор прачытаў славутую Другую Брамса, па-свойму, пераканальна і цікава. Ён не капіраваў узоры, а паглыбляўся ў стыхію музыкі вельмі непасрэдна, адкідаючы хрэстаматыйныя каментарыі.**

Велічна-стрымана гучыць галоўная тэма першай часткі сімфоніі. Тут Ю. Яфімаў захоўвае глыбіню басоў, падкрэслівае мяккасць і пастаральнасць спеву драўляных духавых інструментаў, вытрымлівае светлы тэмбр валторнаў. Без штучных «стыкаў» ідзе «пераклічка» груп аркестра. Тыповыя для Брамса маркіраваныя восьмыя унісоны ўмела адцяняюцца дырыжорам. Невялікая эмацыянальная ўспышка, драматычны ўсплёск, раптоўнае «піяна» і далей — суцішванне — усё прыводзіць да чароўнага гучання віяланчэлей і альтоў.

Акругленасць жэста, прасякнутага лірычнасцю, натхнёнасцю — у гэтым увесь Ю. Яфімаў, калі ён разам з інструментамі аркестра нібы «прапявае» кожную фразу. Драматычны матыў, тонка пабудаваны на пункцірным рытме, блізкі па характары заключнай тэме з першай часткі скрыпічнага канцэрта нямецкага кампазітара, перададзены дырыжорам выключна выразна, з адчуваннем эмацыянальнага «падтэксту» арыгінала.

Адажыо, 2-я частка. Незвычайная прыгажосць «мецца-сапранавага» рэгістра віяланчэлей, добрая легата, прывабная працягласць гучання... Рукі Яфімава перадаюць найменшыя адценні тэмы Брамса, яе «павароты», змену тэмбраў (вельмі выразныя былі скрыпкі). Асабліва ўражвае Яфімаў у бурных драматычных эпізодах, дзе яго жэсты тэмпераментныя, натхнёныя. Дырыжор «запальвае» музыкантаў і слухачоў.

# НАТХНЕННЕ Ў СУЛАДДЗІ З МАЙСТЭРСТВАМ

Такі канцэрт — падзея: у адзін вечар выконваліся тры фартэпіянныя канцэрты адным салістам. Другі канцэрт С. Рахманінава, Першы канцэрт Г. Галыніна, Першы канцэрт П. Чайкоўскага ў гэты вечар іграла заслужаная артыстка рэспублікі Ева Эфрон. Сумеснае выступленне піяністкі з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста РСФСР і заслужанага артыста БССР Віктара Дуброўскага абяцала меламанам радасць, бо гэта майстры сталыя, натхнёныя. Вялікая, значная роля музыкантаў - выканаўцаў у трыядзе: кампазітар — артыст — слухач. Задума і сутнасць твора могуць захапіць нас тады, калі артыст — самастойная мастакоўская індывідуальнасць. Такой мы ведаем Еву Эфрон.

**Ева Эфрон — піяністка рамантычнага плана. У яе ігры пакарае выключная адухоўленасць, паэтычнасць. Раяль пад пальцамі салісткі спявае шырока і свабодна: наогул Е. Эфрон уласцівы летуценнасць і сяшчотнасць, драматызм і філасофская паглыбленасць. Але першы план яе ігры—глыбіня і інтэнсіўнасць суперажывання з аўтарам музыкі. Як дакладна ў свой час сказаў Паганіні: «Трэба моцна адчуваць, каб іншыя адчувалі»! У ігры Е. Эфрон раскрылася чулая да хараства музыкі душэўная шчодрасць артысткі. Колькі ўтоеных ад нашых вачэй унутраных імкненняў і творчай волі было аддадзена падрыхтоўцы такога складанага канцэрта!**

Тое, што адбывалася на канцэрце Евы Эфрон, не хочацца называць звычайна — выкананне. Гэта быў п р а ц э с творчасці — паэтычны і натхнёны, у якім непадзельна зліліся ігра салісткі, гучанне аркестра і дырыжорскае «кіраўніцтва» святлом і ценямі ў музыцы.

Усе тры часткі Другога фартэпіяннага канцэрта С. Рахманінава, прасякнутыя лірыкай і эпічнай веліччу, піяністка аб'ядноўвае ў адзіную паэму. Гучыць усхваляваная песня аб Расіі, з яе бяскрайняй шырынёю задушэўнай прыгажосцю, суровай мужнасцю. Якія шматзначныя першыя акорды салірую чага фартэпіяна, што падобныя да магутных бомаў! Ды і ўся першая частка канцэрта ў артыстычнай трактоўцы Е. Эфрон успрымаецца як абагулены вобраз Радзімы, то веліччы, то лірычна-трапяткі і задуменны.

Карціны мяккага лірычнага пейзажу ажылі ў другой частцы канцэрта.

Што датычыць крыху прыглушанай гучнасці, мяккіх пастэльных фарбаў, знойдзеных тут піяністкай, то яны сапраўды захаплялі. Але поўнасцю задума салісткі раскрылася ў фінале канцэрта. Праз велічную шырыню, невыказны боль, захапляючыя парыванні і лірычную ціхамірнасць кампазітар, а разам з ім і выканаўцы, прывялі нас да яркай куль-

*У МАЙСТЭРНЯХ МАСТАКОЎ*

# СВОЙ ГОЛАС...

ХАРАКТЭРНАЯ асаблівасць Льва Гумілеўскага як партрэтыста — імкненне да выяўлення духоўнай сутнасці чалавека. Гэтай задачы скульптар падпарадкоўвае ўсе выяўленчыя сродкі партрэта, — ад пластычных асаблівасцей натуры да старанна прадуманай кампазіцыі.

Многія ўдалыя партрэты Л. Гумілеўскага, створаныя ў розныя гады, сведчаць аб уменні выбраць матэрыял у адпаведнасці з задумай аб добрым кампазіцыйным мысленні.

Параўноўваючы работы скульптара, лёгка заўважыць, як Л. Гумілеўскі выдзяляе галоўны «стрыжань» у характары чалавека, як гэтаму галоўнаму ён падпарадкоўвае ўсе пластычныя сродкі.

Няўрымслівы, схільны да сумненняў характар у «Партрэце скульптара У. Папсуева» падкрэслены выцягнутай, нібы балансуючай кампазіцыяй, якая стварае ў гледача неакрэсленае, кожны раз іншае ўяўленне аб гэтым чалавеку. Затое ў партрэце ўпэўненага ў сабе, не знаёмага з сумненнямі чалавека («Партрэт Ягорава») скульптар уключае ў кампазіцыю шырокія плечы, якія нібы служаць надзейнай асновай для невялікай галавы і моцнай шыі.

У адной з апошніх работ скульптара — «Партрэце актрысы А. Бендавай» пошукі выразнасці знайшлі ўвасабленне ў простай і натуральнай позе маладой актрысы, чалавека тонкага і эмацыянальнага. У рабоце над гэтым вобразам скульптар імкнуўся парушыць традыцыйнасць пабудовы партрэта, калі ў кампазіцыю ўключаецца толькі галава, твар мадэлі. Л. Гумілеўскі смела ўводзіць у кампазіцыю рукі, рух якіх дапамагае яму перадаць характар чалавека пэўнай прафесіі. Фігура маладой жанчыны «чытаецца» з усіх бакоў. Да месца выкарыстана і тэатральная маска. Апраўдваючы пастаўу левай рукі, яна ў той жа час адрывае вобраз ад звычайнасці, настройвае гледача на ўспрыманне эмацыянальна складанага вобраза нашага сучасніка. Выразнасці вобраза падначалены і матэрыял — дрэва. Яго мяккасць, падатлівасць адпавядаюць зместу вобраза.

Партрэтная творчасць Л. Гумілеўскага, на мой погляд, толькі «перакідны мост» ад канкрэтных вобразаў да больш глыбокіх і складаных пошукаў у станковай кампазіцыі. Праблемы суадносін скульптурных аб'ёмаў у прасторы, іх пластычная ўзаемазалежнасць, арганізацыя выразнай кампазіцыйнай сувязі ў шматфігурнай скульптуры — усе гэтыя пытанні для Л. Гумілеўскага не абстрактныя паняцці, а праблемы творчасці, якія скульптар настойліва спрабуе вырашаць у кожнай чарговай рабоце.

Гэта было прыкметна ўжо ў адной з ранніх яго работ — кампазіцыі «Навасёлы». Цікавай, пераканаўчай спробай у гэтым сэнсе быў і скульптурны трыпціх «Партызаны». У ім мастаку ўдалося вырвацца з зачараванага кола «спаяных» наглуха, закрытых кампазіцый, характэрных для многіх нашых скульптараў на пачатку і ў сярэдзіне шасцідзесятых гадоў.

Л. Гумілеўскаму ўдалося раскрыць кампазіцыю «Партызан», прымусіць жыць кожную фігуру ў прасторы самастойна, незалежна ад «суседа», захоўваючы ў той жа час сувязь з асноўнай групай. Але сувязь ужо не механічную, бо героі кампазіцыі звязаны сюжэтна, лагічна і псіхалагічна.

Імкненне да кампазіцыйнай свабоды, «раскаванасці» выявілася і ў скульптурнай групе «Фантан» для помніка Я. Купалы ў Мінску, адным з аўтараў якога быў і Л. Гумілеўскі.

Група «чытаецца», як неад'емная частка ўсяго комплексу. Ёй уласцівы ярка выказаны дэкаратыўны пачатак, і ў той жа час яна сугучна песеннасці і лірызму Купалавай паэзіі. У гэтай рабоце аўтары — А. Анікейчык, Л. Гумілеўскі, А. Заспіцкі — адкрыта выступаюць супраць ілюстрацыйнасці, бытавой канкрэтнасці вобразаў. Ім важна знайсці, калі можна так сказаць, матэрыяльны эквівалент вобразам, народжаным летуценнай фантазіяй паэта. Таму ў гледача не выклікаюць пярэчанняў стылізаваныя, крыху «выцягнутыя» фігуры купальшчыц, іх далёкія ад «жыццёвай дакладнасці» позы. Пластычна выразныя і віртуозна вылепленыя валасы дзяўчат адмыслова віюцца. Гэта ўзмацняе і падкрэслівае дэкаратыўнасць усёй групы.



Л. Гумілеўскі ў пошуках кампазіцыйных рашэнняў заўсёды новы і арыгінальны. Прычым пошукі яго — не самамэта. Яны строга падначалены раскрыццю таго або іншага зместу.

У рабоце жанравага характару «Партызанская сям'я» скульптар лёгка спраўляецца з задумай, удала выкарыстоўваючы традыцыі народнай разьбы па дрэву. Ён кампануе фігуры членаў баявой партызанскай сям'і вакол гарматы па прынцыпу «сямейнай» фатаграфіі, дзе кожны персанаж у сканцэнтравана-напружанай позе быццам чакае шчаўчка фотаапарата. Гэты лагодна-жартаўлівы тон, абраны скульптарам у характарыстыцы герояў, крыху грубаватая («самадзейная») манера разьбы жыва асацыіруюцца з прыёмамі народнай скульптуры, надзеленай у многіх выпадках значнай доляй гумару.

Наглядаючы ў майстэрні за работай Л. Гумілеўскага, разглядаючы ўжо закончаныя творы і тыя, што толькі ледзь намечаны ў пластылінавых фігурках-мадэлях, разумееш, як нечакана часам мяняецца напрамак думкі мастака. Вось невялікая гіпсавая фігурка дзяўчыны, якая бяжыць, поўная імклівага руху. У яе крыху нязручнай, «замарожанай» скульптарам позе, ёсць нешта недаказанае. Але вось побач тая ж дзяўчына з доўгімі канцамі лёгкага шалю, які ўецца за спіною — гэта ўжо больш лагічна, зразумела... Затым трэцяя фігура — дзяўчына ўся выцягнулася ўперад, занесла рукі над галавою, яны зліліся з трапяткімі канцамі шалю — стройная фігура нібы лунае ў паветры. «Крылатая» — так добра і дакладна назваў гэтую скульптуру мастак. Двухметровая фігура з кованай медзі — работа, якой захоплен цяпер скульптар, неўзабаве з'явіцца і на выстаўцы.

Майстэрня скульптара — гэта лабараторыя, дзе мастак ажыццяўляе вынікі свайго роздуму, пошукаў, эксперыментаў. Скульптура — гэта не толькі манумент на плошчы або дэкаратыўная група ў гарадскім скверы, кампазіцыя ці партрэт у выставачнай зале. Сёння скульптары настойліва шукаюць спосабы пашырэння вобразнага ўздзеяння пластыкі на чалавека, ствараюць новыя формы і жанры скульптуры. Да нядаўняга часу лічылася, напрыклад, што пейзаж ці нацюрморт з'яўляюцца выключна прывілеяй жывапісцаў. Але графікі пераканаўча абвергլі гэтую думку, стварыўшы выдатныя ўзоры гэтых жанраў у лінагравюры, афорце, ксілаграфіі. А цяпер і скульптары недвухсэнсоўна паглядаюць на «святая святых» жывапісу. Не ведаю, ці будуць калі-небудзь створаны скульптурныя пейзажы, але вось скульптурныя нацюрморты нам ужо даводзілася бачыць на мастацкіх выстаўках. Л. Гумілеўскі ў гэтым сэнсе прытрымліваецца аптымістычнага пункту гледжання. На выстаўцы «На варце Радзімы» ён паказаў «Салдацкі нацюрморт» (таніраваны гіпс), які, мне здаецца, не пазбаўлены арыгінальнасці.

Некалькі гадзін, праведзеных у майстэрні скульптара, сталі для мяне асноўнай падзеяй дня. Было зразумела, што для Л. Гумілеўскага ў майстэрні няма другарадных рэчаў — ён з аднолькавым захапленнем расказваў і пра работу над помнікам братам-падпольшчыкам Косцю і Валодзю Сянько, і пра трагічны вобраз Пушкіна, і пра рамантычны эцюд, прысвечаны камсамольцам дваццатых гадоў. Аднак адчувалася па ўсяму, што найбольш важкай і значнай ён лічыць работу над помнікам У. І. Леніну ў Пружанах. Пакуль што гэты помнік толькі ў эскізах, у праектах, але ўся творчасць Л. Гумілеўскага дае падставы меркаваць, што ён будзе цікавы.

**С. ПЕТЭРСОН.**

# ЧАКАНКА — ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ...

КАЛІ НЕКАЛЬКІ гадоў назад у мінскіх інтэр'ерах і на выстаўках упершыню з'явілася дэкаратыўная чаканка па металу, некаторыя мастацтвазнаўцы спрабавалі давесці неправамернасць развіцця ў нас гэтага віду мастацтва, быццам бы неўласцівага беларускім мастацкім традыцыям. А між тым чаканка — і як рамяство, і як мастацтва — здаўна бытавала на беларускай зямлі. Аб гэтым сведчаць архіўныя запісы і праведзеныя нядаўна экспедыцыі сектара Зводу помнікаў АН БССР, якія выявілі цікавыя мастацкія творы з металу. Дастаткова сказаць, што беларускія чаканшчыкі пастаўлялі сваю прадукцыю ў царскія палацы, і майстэрства іх цанілася гэтак жа высока, як і майстэрства разбяроў па дрэву, збройнікаў, ганчароў.

У беларускіх вёсках, асабліва ў тых, дзе і цяпер жывуць татары, якія раней, магчыма, садзейнічалі развіццю медна-чаканных рамёстваў на Беларусі, і сёння можна ўбачыць медныя рэчы хатняга ўжытку — місы, кубкі, упрыгожаныя чаканкай. Таму адраджэнне ў рэспубліцы мастацкай чаканкі, праўда, ужо на зусім іншай аснове і не без уплыву сучасных школ мастацкай апрацоўкі металу ў суседніх прыбалтыйскіх, а таксама і закаўказскіх рэспублік, зусім заканамернае.

Сёння гэты від творчасці развіваецца ў асноўным у рамках дэкаратыўна-манументальнага і афарміцельскага мастацтва. Ён, як гаворыцца, прыйшоўся да спадобы сучаснай архітэктуры. Цяга да натуральных матэрыялаў у афармленні інтэр'ераў заахвоціла мастакоў да пошуку новых дэкаратыўных якасцей дрэва, керамікі і металу.

Адной з першых у Беларусі дэкаратыўна-манументальных чаканак з'явілася геральдычнае пано, створанае аўтарскім калектывам у складзе мастакоў М. Данцыга, Б. Няпомняшчага, А. Сурскага і майстроў-выканаўцаў В. Чубарава, Ю. Калістратава, А. Шпігуна для беларускага павільёна на міжнародным кірмашы ў Лейпцыгу.

Тэма беларускага прадстаўніцтва на гэтым славутым кірмашы раскрывалася ў эфектнай кампазіцыі са старажытных гербаў беларускіх гарадоў, якія на працягу стагоддзяў пастаўлялі свае тавары ў Лейпцыг. Чаканная геральдыка служыла своеасаблівым гістарычным фонам для велізарнага металічнага герба Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Гэтая тэма была развітая аўтарамі далей пры афармленні рэстарана «Юбілейны» ў Мінску.

Перад мастакамі стаяла даволі складаная задача — арганізаваць прастору вельмі вялікай і не надта ўтульнай залы, расставіць у ёй неабходныя сэнсавыя і эмацыянальныя акцэнты.

Задача ўскладнялася тым, што архітэктарамі гэтыя акцэнты прадугледжаны не былі, таму мастакі вырашылі пайсці на чыста дэкарацыйны прыём, які быў кантрастны да сухаватай архітэктуры. З пункту гледжання традыцыйнага ўяўлення аб сінтэзе архітэктуры і мастацтва ён здаецца крыху нязвыклым — абліцаваная абпаленай сасновай дошкай тарцовая сцяна залы, упрыгожаная чаканнымі гербамі гарадоў Беларусі, нагадвае гарадскія вароты і выглядае крыху тэатральнай. Але гэтая тэатральнасць дапамагае стварэнню ў наведвальніка пачуцця ўрачыстасці, прыўзнятасці. Яна напаўняе сучасны інтэр'ер «водарам гісторыі».

Аксамітавая фактура дрэва, кованыя клёпкі і чырванаваты водбліск чаканнай медзі ствараюць у зале рэстарана адчуванне рукатворнасці, цеплыні, прыцягваюць увагу да цікавых, вытрыманых у агульным настроі дэталей, сярод якіх найбольш цікавыя рэканструяваныя і выкананыя ў метале А. Сурскім геральдычныя знакі беларускіх гарадоў.

Пры распрацоўцы інтэр'ера залы рэстарана «Юбілейны» адбылася даволі нечаканая «пераацэнка каштоўнасцей», калі не архітэктура «дыктуе свае ўмовы» дэкаратыўнаму мастацтву, а мастацтва бярэ на сябе функцыі архітэктуры па арганізацыі прасторы, па стварэнні адзінага стылю памяшкання, па распрацоўцы, калі можна так сказаць, мікразаніравання залы.

У апошні час гэты прыём становіцца ўсё больш распаўсюджаным. Добра гэта? Несумненна, не. Бо сведчыць перш за ўсё аб млявасці, стэрэатыпнасці архітэктуры. Таму мастакі-дэкаратары вымушаны «прымаць агонь на сябе» і намагацца «выцягнуць» сухі, нейтральны інтэр'ер пры дапамозе дэкаратыўнай архітэктонікі.

Развіццё мастацтва чаканкі, як і ўсякае іншае мастацтва, патрабуе ад майстра самай сур'ёзнай спецыялізацыі. Яно не цярпіць дылетантызму. А між тым, менавіта чаканкай у нас у рэспубліцы займаюцца і скульптары, і жывапісцы, і графікі, і афарміцелі. Адбываецца гэта таму, што нашы вышэйшыя і сярэднія мастацкія навучальныя ўстановы да апошняга часу не рыхтавалі мастакоў-чаканшчыкаў, а жыццё патрабавала свайго, попыт на чаканку па металу быў і за-



Насценныя планшэты ў трыкатажным атэлье па вуліцы Веры Харужай у Мінску.

# ДАРОГУ ПАДКАЗАЛА БІБЛІЯТЭКА...

«ДАРАГІЯ сябры мае, супрацоўнікі Уздзенскай дзіцячай бібліятэкі!

Піша вам былы ваш чытач Генадзь Крайко. Цяпер я працую камандзірам верталёта на далёкай поўначы. Нядаўна быў у нас асабліва складаны і небяспечны рэйс: шукалі групу геолагаў, якія трапілі ў бяду. Хоць і цяжка было, а заданне выканалі —выратавалі людзей.

Часам міжвольна задумваюся: што занесла мяне сюды, на поўнач, дзе наўкола снягі, сярод якіх можна нечакана спаткаць небяспеку, дзе пануе доўгая палярная ноч? Адкуль тая рамантыка паўночных палётаў пачалася?.. І ў памяці адразу ўсплываюць невялічкі, чыста пабелены пакойчык, бібліятэчныя стэлажы і мы, купка хлапчанят, ля жоўтага доўгага стала, што не дыхаючы слухаем, як бібліятэкар чытае ўголас урыўкі з кнігі Вадап'янава «Палярны лётчык». Потым былі гады вучобы, сталасць, а разам з імі прыходзілі цвярозыя планы, развАжанні, разлік сваіх сіл і магчымасцей. І, нарэшце, канчатковае рашэнне. Але іскра, відаць, запала значна раней, там, у невялічкім пабеленым пакойчыку...»

Такія лісты ў нашай бібліятэцы не навіна. Прыходзяць яны і з Магілёўшчыны ад тэхніка-тэхнолага Анатоля Рамячнка, і з Ленінграда ад ваеннаслужачага Уладзіміра Грышука, і з Сібіры ад геолага Станіслава Шышко, і з казахстанскіх стэпаў ад трактарыста Івана Махнача. А нагадаў я пра іх пасля выступлення аднаго з маіх калег на абласной нарадзе бібліятэкараў.

— Будзе пара —будзе і трава. І без прафарыентацыі,—сказала загадчыца бібліятэкі, — ніводзін падстрыгач яшчэ краўцом не зрабіўся. Вучыш-вучыш іншага, а ён пасля і вітацца з табою на вуліцы не жадае, адварочваецца. А скончыць школу — адно на ўме: каб як бліжэй да «чыстае» работы прыстроіцца, праспект лакіркамі націраць. Тут табе і ўся арыентацыя...

Нейкі працэнт горкае праўды ў гэтых словах, вядома, ёсць. Ды і аўтар іх, відаць, зыходзіла з канкрэтных выпадкаў. Але пагадзіцца з ёю поўнасцю нельга.

Ёсць на Уздзеншчыне, на берагах сівога Нёмана, вёска Магільнае, а ў ёй сярэдняя школа. Звычайная, як сотні іншых вясковых дзесяцігодак. Але strэнеш тут і не зусім звычайнае. Ну хаця б школьнае лясніцтва, члены якога — вучні старэйшых класаў — збіраюць насенне розных парод дрэў, садзяць лес, даглядаюць і ахоўваюць яго, асабліва ў гарачы час летніх адпачынкаў, калі на берагі Нёмана і прыбярэжныя сасоннікі наплывае з гораду «дзевяты вал» турыстаў — «арганізаваных» і «дзікуноў». Члены лясніцтва працуюць у самай цеснай сувязі са школьнай бібліятэкай.

Даводзілася мне прысутнічаць у гэтай школе на вусным часопісе «Рукі працавітыя», на ранішніку «Слава хлебаробу!». Абодва мерапрыемствы былі арганізаваны школьнай бібліятэкай сумесна з піянерскай арганізацыяй і класнымі кіраўнікамі. З якой цікавасцю слухалі вучні спецыялістаў сельскай гаспадаркі, медсястру тутэйшай бальніцы, работніка мясцовага лясніцтва. А калі праходзіла віктарына, то нават для шасцікласнікаў пытанні ставіліся даволі канкрэтна: якія сельскагаспадарчыя машыны працуюць на палетках калгаса «Нёман»? Якія маркі трактараў замацаваны за механізаванымі звеннямі ў першай і трэцяй брыгадах? Хто з хлебаробаў занесены ў кнігу гонару ў калгасе «Нёман», на тэрыторыі якога размешчана школа?.. Пасля кожнага пытання — лес узнятых рук. І не толькі таму, што пытанні задаюцца дзецям тых жа механізатараў, паляводаў, але і таму, што бібліятэкар Т. Мажэйка, дырэктар І. Жыгалковіч і ўвесь педагагічны калектыў школы гэтак арганізавалі справу, што жыццё школы самым цесным чынам перапляЛося з жыццём калгаса. А пасля заканчэння школы многія з былых вучняў ідуць працаваць на палі і фермы калгаса, у калгасныя майстэрні. І працуюць так, што нават узнагароды за выдатную працу атрымліваюць.

Уздзенская раённая дзіцячая бібліятэка зрабіла спіс прафесій, неабходных для раёна. Тут і трактарысты, і жывёлаводы, і раслінаводы, і шафёры, і слесары, і бібліятэкары, і іншыя. Адпаведна прафесіям з гэтага спіса плануецца і работа па прафтэхнавучанню, вядома, прымяняльна да спецыфікі бібліятэкі і ўлічваючы, наколькі гэта магчыма на сённяшнім дні.

Цяжкасці? Ды яны на кожным кроку. Скажам, праводзіць бібліятэкарка экскурсію на жывёлагадоўчыя фермы калгаса «Інтэрнацыянал», у калгасную кузню ці на млын. Паказаць чытачам тут ёсць што: на кожным кроку розныя машыны, механізмы. Але паспрабуй «звяжы» іх з кнігай, калі такіх кніг амаль няма! Выручае перыёдыка, асабліва часопіс «Бярозка».

Наогул, экскурсія, мне здаецца, з'яўляецца адной з найлепшых форм прапаганды розных прафесій, таму што дазваляе хоць на нейкі момант далучыць дзяцей да той атмасферы, у якой працуе спецыяліст, даць найбольш яскравае ўяўленне аб характары яго працы і яе грамадскай важкасці. У школах ужо дзесяткі год экскурсія лічыцца адным з важнейшых фактараў выхавання. А вось у бібліятэках яна існуе на правах падчаркі—бо, бачыце, гэта не чыста «кніжная» форма работы. Але затое з якой ахвотай бягуць у бібліятэку хлопчыкі і дзяўчынкі, калі абвяшчаецца экскурсія! Як яны рыхтуюцца да яе! Чытаюць, што ўдаецца дастаць, абмяркоўваюць маршрут і гульні на зваротным шляху, дамаўляюцца аб абавязках кожнага. Як цікава прайшла, напрыклад, праведзеная летась экскурсія на жывёлагадоўчыя фермы саўгаса «Уздзенскі», у час якой яны сустрэліся з жывёлаводамі П. Ліпаём, Л. Сасноўскай, пазнаёміліся з разнастайнымі механізмамі, што шырока выкарыстоўваюцца ў сучаснай жывёлагадоўлі. І калі я чую магутны гул «Беларусаў», што калонай праходзяць ля бібліятэкі ў напрамку сельгастэхнікі, а праз тоўстае шкло кабін бачу ўзмужнелыя, нават заклапочаныя твары нядаўніх нашых чытачоў, ну, хаця б Алеся Раклінскага, братоў Віктара і Уладзіміра Шавеляў, Івача Гардзеева і іншых, то міжволі ўспамінаю экскурсію чытачоў у Уздзенскае сельскае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 10, удзельнікамі якой былі некалі і гэтыя сённяшнія механізатары.

Ёсць у бібліятэцы традыцыя: праводзіць не толькі экскурсіі і «агеньчыкі» «Кім быць?», не толькі сустракацца з цікавымі людзьмі розных прафесій, але час ад часу запрашаць на сустрэчы былых сваіх чытачоў. Такіх, як лепшы трактарыст Уздзенскага райаб'яднання «Белсельгастэхніка» Л. Саковіч, шафёры Уздзенскай аўтабазы Г. Кухарчык і А. Семянчук, навуковы супрацоўнік Інстытута матэматыкі Акадэміі навук БССР В. Бернік, інжынер-вакуумшчык аднаго з навукова-даследчых інстытутаў А. Кутылоўскі і многія іншыя.

Вядома, ёсць у бібліятэцы і тэматычныя паліцы «Буду механізатарам», «Юным жывёлаводам», кніжныя выстаўкі «Піянерам аб сельскай гаспадарцы», «Чалавек працаю славіцца», а для самых маленькіх чытачоў — выстаўка «Чым пахнуць рамёствы». Ля іх праводзяцца і гутаркі, і агляды новых кніг, і гучныя чытанні. Праводзяцца і больш буйныя мерапрыемствы — такія, як канферэнцыя па кнігах беларускіх аўтараў аб розных прафесіях. На канферэнцыю, што праводзілася па кнігах Ул. Шыціка «Колькі машын на палях?», П. Місько «Падарожжа ў калгас», Л. Лявонава «Гаспадар зямлі», А. Чаркасава «Магутны твой зямляк» і шэрагу іншых, быў запрошаны пісьменнік, аўтар некалькіх пазнавальных кніг для падлеткаў Анатоль Чаркасаў.

Ці ўсё мы робім, што можам, у дапамогу прафтэхнавучанню? Не. Нам многае замінае ў рабоце. Перш за ўсё, раздрабнёнасць патрабаванняў, якія ставяцца да дзіцячых бібліятэк. Я не за аднабаковасць у рабоце. Але стрыжневымі задачамі ў рабоце павінны быць тыя, якія ставіць перад намі жыццё. Тады самі сабою адмятуцца і распыленасць, неакрэсленасць у рабоце дзіцячых бібліятэк на пэўны год, і цэлыя стагі нікому непатрэбнай канцыляршчыны.

І яшчэ, што замінае дзіцячым бібліятэкам разгарнуць сапраўдную работу ў дапамогу прафтэхнавучанню, — мізэрнасць іх штатаў. Зараз штат бібліятэкі залежыць у першую чаргу ад колькасці кніжнага фонду. Кніга — гэта той будаўнічы матэрыял, з якім працуе бібліятэкар. А хацеў бы я паглядзець на будоўлю, дзе колькасць рабочых залежыць ад колькасці завезенай цэглы! Такіх будоўляў, відаць, у нас няма. Праўда, штаты залежаць ад колькасці чытачоў, якія ходзяць у бібліятэку па кніжкі, і ад таго, колькі гэтых самых кніжак запісана, выдадзена наведвальнікам. Якіх кніжак— усё роўна. І ніяк яны, штаты, не залежаць ад непасрэднай, жывой работы з жывымі людзьмі, ад прапаганды лепшых твораў савецкай дзіцячай літаратуры, ад работы па прафтэхнавучанню.

Зараз у бібліятэкараў з'явілася ходкае слоўца— «эфектыўнасць». Моднае, нічога не скажаш. Яно азначае, што якасць кожнага «мерапрыемства» — ад кніжнай выстаўкі да канферэнцыі чытачоў — ацэньваецца колькасцю кніжак па дадзенай тэме, што былі выдадзены пасля правядзення чарговага «мерапрыемства». Чыталіся яны потым, ці не, і як прайшлі праз душу чытача, не мае значэння...

Я — супраць такой «эфектыўнасці». Я — за рэнтабельнасць усёй бібліятэчнай работы, у тым ліку і па прафтэхнавучанню.

**Д. СЛАЎКОВІЧ,**
загадчык Уздзенскай раённай дзіцячай бібліятэкі, пісьменнік.

ЗАКОНЧЫЎСЯ яшчэ адзін этап юбілейнага фестывалю самадзейнага мастацтва — дэкада спектакляў народных тэатраў рэспублікі. Мінчане паглядзелі 12 работ.

Адбылася канферэнцыя рэжысёраў народных тэатраў, метадыстаў дамоў народнай творчасці і дамоў мастацкай самадзейнасці, якая падвяла вынікі гэтай дэкады. З глыбокай зацікаўленасцю абмяркоўваўся на ёй сённяшні дзень тэатральнай мастацкай самадзейнасці рэспублікі, праблемы яе далейшага развіцця.

З дакладам выступіў кандыдат мастацтвазнаўства С. Пятровіч.

— Вынікі фестывалю самадзейнага мастацтва і тэатральнай дэкады, — гаворыць дакладчык, — пераконваюць нас у тым, што народная творчасць рэспублікі сустрэла 50-годдзе СССР добрымі вынікамі. Пра гэта сведчыць і рэпертуар калектываў, і ўзровень рэжысёрскай работы, і майстэрства акцёраў-аматараў, якія значна выраслі.

У рэспубліканскім фестывалі ўдзельнічала 36 тысяч самадзейных калектываў. Сярод іх — 49 народных тэатраў, больш за пяць тысяч драматычных гурткоў і звыш трох тысяч агітацыйна-мастацкіх брыгад. Нарадзілася чатыры тысячы новых калектываў. За гэтымі лічбамі стаіць вялікая армія людзей, улюбёных у самадзейнае мастацтва, якія патрабуюць да сябе ўвагі, клопатаў. Вялікае значэнне надаецца сёння якаснаму росту нашай самадзейнасці, павышэнню майстэрства тых, хто заняты ў аматарскіх калектывах.

Прыемныя змены адбыліся ў рэпертуары. Гэта асабліва прыкметна ў рабоце тэатральнай самадзейнасці. На аматарскай сцэне прайшлі спектаклі на гісторыка-рэвалюцыйную тэматыку, пра гераізм народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны, аб сённяшніх буднях савецкіх людзей: «Разлом», «Рускія людзі», «Паміж лівенямі», «Сям'я», «Вогненны мост», «Салаўіная ноч», «А зоры тут ціхія...», «Паэма пра сякеру» і многія іншыя.

Шырока ставяцца творы нацыянальнай драматургіі — «Вайна вайне», «Паўлінка», «Прымакі», «З народам», «Ганка», «Людзі на балоце», «Брэсцкая крэпасць», «Мурын бор», «Не верце цішыні», «Трыбунал».

# ПУЛЬС ЧАСУ

«Пяцігодка ў дзеянні» — такі дэвіз заключнага этапу агляду-конкурсу агітацыйна-мастацкіх брыгад Міншчыны. Права ўдзельнічаць у гэтым спаборніцтве заваявалі сем лепшых калектываў вобласці.

Агітацыйна-мастацкая брыгада— перш за ўсё мабільнасць. Рэквізіт, бутафорыя, нарэшце, само касцюміраванне павінна быць лаканічным. Агітбрыгада — гэта пульс часу, гэта яго дакладны крок. На любой пляцоўцы, няхай гэта будзе сцэна чырвонага кутка прадпрыемства ці сельскага клуба, або проста палявы стан — брыгада выступае ў час абедзеннага перапынку. У аператыўнасці сваёй агітбрыгадны жанр набліжаецца да журналістыкі — паказчыкі працоўных дасягненняў і прозвішчы перадавікоў вытворчасці, якія артысты-аматары называюць са сцэны, павінны быць самымі свежымі, дакладнымі, а сатырычная старонка — надзённай, пабудаванай на канкрэтных фактах.

У праграме кожнай брыгады прыкметна было імкненне расказаць, як хораша, шчасліва жывуць сёння працаўнікі калгаснай вёскі, якім зайздросным багаццем яны валодаюць.

На жаль, у агітбрыгадах яшчэ вельмі мала ўвагі аддаецца пошукам арыгінальных сцэнарных форм, захапляючай і нечаканай падачы са сцэны дакументальнага матэрыялу. Выступленні пераважнай большасці агіткалектываў будуюцца па прынцыпу канцэртнай праграмы, калі паміж самастойнымі нумарамі мастацкай самадзейнасці вядучыя добрасумленна паведамляюць аб тых дасягненнях, якія мае іх раён сёння. Між тым, такая пабудова выступлення брыгады, як мне здаецца, няправільная ў самай сваёй аснове.

Сцэнарый агітацыйна-мастацкай брыгады — гэта маленькі драматургічны твор, усе эпізоды якога строга падпарадкаваны якой-небудзь задуме. Таму танцы і песні, якія ўключаюцца ў сцэнарый, павінны быць сюжэтнымі, г. зн. дапамагаць раскрываць асноўную ідэю твора. Задача складаная і, мабыць, далёка не кожны калектыў можа справіцца з паспяховым яе вырашэннем.

Самым цікавым у плане пошуку

# НА ТРАКТАРНЫМ, ВА УНІВЕРСІТЭЦЕ КУЛЬТУРЫ

Універсітэт культуры быў створаны пры палацы культуры Мінскага трактарнага завода чатыры гады назад. На двух факультэтах лекцыі чытаюць кандыдаты мастацтвазнаўства Т. Гаробчанка, Т. Барысава, В. Смаль і іншыя.

Узрост слухачоў, іх жыццёвы вопыт і адукацыя розныя: побач з маладым токарам — сталявар, які хутка пойдзе на заслужаны адпачынак. Любоў да мастацтва, літаратуры аб'ядноўвае гэтых людзей. Праграма складзена так, каб цікава і як найлепш расказаць пра музычную культуру рускага і беларускага народаў, пра гісторыю кінамастацтва савецкіх рэспублік, творчасць лаўрэатаў Ленінскай прэміі і г. д. Традыцыйнымі сталі сустрэчы з артыстамі і кінарэжысёрамі. Цікава прайшлі сустрэчы з вядомымі кінаартыстамі М. Кручковым і М. Губенкам, а таксама з рэжысёрам М. Калініным.

Вялікую папулярнасць універсітэт культуры заваяваў у рабочых. Заняткі наведваюць каля тысячы слухачоў. Вось што гаворыць аб гэтым інжынер-канструктар М. Касцялецкая:

— Я атрымала тэхнічную адукацыю, але хачу ведаць, што адбываецца ў мастацтве — тэатры, кіно, музыцы. Таму і паступіла на факультэт «Кінамастацтва нашых дзён». Дзякуючы гэтаму з кожным днём паглыбляю свае мастацка-этычныя веды.

Палац культуры не ўмяшчае ўсіх жадаючых наведваць універсітэт. Таму пры інтэрнаце № 3 адкрыты нядаўна яго філіял. Тут створаны факультэт музыкі. У план уключаны такія тэмы, як «Народная музычная культура», «Аб чым гаворыць музыка», «Музыка і літаратура» і інш.

**Л. НЕСЦЯРОВІЧ,**
метадыст палаца культуры.

# ШУКАЦЬ і ЗНАХОДЗІЦЬ





Сцэны са спектакляў «Паўлінка» ў пастаноўцы Пінскага народнага драматычнага тэатра і «Вучань д'ябла» ў пастаноўцы Барысаўскага народнага драматычнага тэатра.

«Амністыя». Самадзейныя калектывы гартуюць сваё майстэрства ў спектаклях паводле твораў рускай класікі і асабліва А. Астроўскага, А. Чэхава, Л. Талстога, М. Горкага, а таксама і твораў зарубежных аўтараў.

Гаворачы пра вынікі дэкады тэатральнага самадзейнага мастацтва, дакладчык спыняецца на аглядах, якія прайшлі ва ўсіх абласцях рэспублікі. Добрымі калектывамі заявілі сябе Баранавіцкі, Пінскі, Слонімскі народныя тэатры, калектывы мінскіх трактаразаводцаў, гродзенскіх тэкстыльшчыкаў і інш. За апошнія гады прыкметна вырас і пасталеў народны тэатр Магілёўскага палаца культуры завода штучнага валакна. Радуе актыўнае творчае жыццё ў Мазырскім народным тэатры.

Далей дакладчык гаворыць пра недахопы ў рабоце народных тэатраў. Непакоіць тое, што працяглы час не працаваў Брэсцкі народны тэатр чыгуначнікаў. Такое ж становішча і ў Брагіне, у тэатры аршанскіх чыгуначнікаў і Полацкім народным тэатры. Не сказалі сваё слова на аглядзе Рэчыцкі і Жлобінскі народныя калектывы. Калі падсумаваць сказанае, то атрымаецца, што 14 народных тэатраў у абласных аглядах не ўдзельнічалі.

І яшчэ. Знізіўся ўзровень тэатральнай самадзейнасці ў Магілёўскай і Мінскай абласцях. У Магілёве на абласны агляд выйшаў толькі адзін калектыў Горацкага раённага дома культуры, ды і той паказаў слабы спектакль. Зрэдку з'яўляюцца новыя работы народнага тэатра Магілёўскага аўтазавода імя Кірава. Спынілася творчае жыццё ў Бялыніцкім тэатры юнага гледача і ў Краснапольскім. Не ўдзельнічалі ў аглядзе Слуцкі, Цімкавіцкі і Маладзечанскі (мэблевай фабрыкі) народныя тэатры. Нешта важнае ўпусцілі ў сваёй рабоце і абласныя ўпраўленні культуры, і дамы народнай творчасці, і дамы мастацкай самадзейнасці дзвюх абласцей рэспублікі.

Непасрэдныя ж удзельнікі дэкады самадзейнага тэатральнага мастацтва яшчэ раз пацвердзілі сваю жыццяздольнасць. Многія са спектакляў, паказаных у Мінску, набліжаюцца да прафесійнага ўзроўню.

Асобнай гаворкі заслугоўваюць народныя агіттэатры «Усмешка» і «Полымя». Артысты агіттэатра Стаўбцоўскага раённага дома культуры паказалі праграму, лаканічна названую «Луста хлеба» — своеасаблівы гімн рукам, якія пахнуць хлебам і водарам роднай зямлі.

Надзённасць, баявітасць — характэрныя рысы гэтай, безумоўна, цікавай праграмы. Увачавідкі бачыш, за што агітуе і куды кліча калектыў тэатра «Полымя». Праўда, ёсць пэўныя пралікі ў рэжысёрскім вырашэнні праграмы, але надзвычай добра, што ў наяўнасці праграма, якая патрэбна сёння працаўнікам вёскі, ёсць сцэнарый, які нарадзіўся ў самім калектыве.

Сур'ёзнае пярэчанне выклікае выступленне нашай славутай «Усмешкі». Усе мініяцюры пастаўлены з бляскам, іх па-майстэрску выконваюць артысты тэатра. Але, відаць, для агіттэатра аднаго гэтага мала. Юбілейная праграма павінна быць больш мэтанакіраванай і баявітай. Неабходна сур'ёзна папрацаваць над сцэнарыем.

У праграме дэкады значылася і опера «Цар-цясляр», якую паказаў адзіны ў рэспубліцы калектыў народнай опернай студыі Мінскага палаца культуры прафсаюзаў. Завяршылася дэкада тэатральнага самадзейнага мастацтва купалаўскай «Паўлінкай», якую паставіў Пінскі народны тэатр (рэжысёр — заслужаны дзеяч культуры БССР І. Сакольскі, мастацкае афармленне А. Белавуса). Спектакль парадаваў сваёй народнасцю, музычнасцю, гумарам, трапнымі акцёрскімі ўдачамі. Найбольшае ўражанне ў гледача пакінулі Г. Кабадзейцава (Агата), А. Бажэлка (Пранцысь), М. Муляр (Сцяпан Крыніцкі), З. Друп (Паўлінка), Г. Міхайлава (Альжбета).

Старшы выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага А. Каляда спыніўся на праблемах рэжысуры ў народных тэатрах рэспублікі. Ён адзначыў, што рэжысура імкнецца найбольш поўна выявіць разнастайнасць граней таленту самадзейных артыстаў.

Рэжысёр Магілёўскага народнага тэатра завода штучнага валакна, заслужаная артыстка РСФСР Э. Міхайлава сваё выступленне прысвяціла пытанням культуры работы ў калектыве, яго ансамблевасці.

— Дэкада тэатральнага самадзейнага мастацтва — наша свята, наша творчая справаздача і наша акадэмія, — гаворыць рэжысёр народнага тэатра палаца культуры Мінскага трактарнага завода, заслужаны работнік культуры БССР А. Бяляеў.— На жаль, мы пастаўлены ў такія ўмовы, што не заўсёды маем магчымасць сачыць і знаёміцца з работай іншых народных тэатраў Беларусі, не ведаем, чым яны жывуць, якія ў іх радасці і засмучэнні. Абавязкова трэба наладжваць абменныя спектаклі.

На канферэнцыі таксама выступілі дырэктар Мінскага абласнога дома мастацкай самадзейнасці прафсаюзаў Т. Курыла, метадыст Віцебскага абласнога дома народнай творчасці В. Маёраў, выконваючы абавязкі рэжысёра Барысаўскага народнага тэатра В. Бельтаў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ул. Стэльмах. Яны гаварылі пра неабходнасць узмацніць вучэбна-выхаваўчую работу ў самадзейных калектывах, пра тое, каб, нарэшце, шэфства дзеячоў мастацтва над самадзейнасцю стала нормай жыцця, той школай майстэрства, у якой маюць вялікую патрэбу артысты-аматары.

Намеснік міністра культуры БССР Р. Г. Мачулін падвёў вынікі канферэнцыі. Ён уручыў дыпломы першай ступені ўдзельнікам дэкады тэатральнага самадзейнага мастацтва народным тэатрам Мінскага трактарнага завода і Магілёўскага завода штучнага валакна, Мазырскаму, Пінскаму і Слонімскаму тэатрам, тэатру мімікі і жэста Беларускага таварыства глуханямых, народнай опернай студыі Мінскага палаца культуры прафсаюзаў. Дыпломамі другой ступені ўзнагароджаны агіттэатры «Усмешка» і «Полымя», Браслаўскі народны тэатр і тэатр палаца культуры прафсаюзаў. Барысаўскі народны тэатр атрымаў дыплом трэцяй ступені.

новых сцэнарных і сцэнічных форм здаўся мне калектыў агітбрыгады Дзяржынскага раённага дома культуры «Колас». Кіраўнік Л. Перальман адмовілася ад традыцыйнай плакатнай падачы матэрыялу, ад традыцыйных галопных тэмпа-рытмаў, а паспрабавала пагаварыць з глядзельнай залай аб сур'ёзных рэчах удумлівай мовай. Але слабым аказалася выканаўчае майстэрства ўдзельнікаў і цікавая задума не атрымала патрэбнага мастацкага вырашэння.

Калектыў агітбрыгады калгаса «Чырвоны сцяг» Стаўбцоўскага раёна «Колас» характэрны іншым. У склад яго ўваходзяць педагогі А. і В. Агароднікі, даяркі Г. Крыжаноўская і С. Рокаш, конюх М. Шашко, брыгадзір паляводчай брыгады Д. Дударэвіч, сакратар партыйнай арганізацыі калгаса З. Булош, аграном С. Саматыя. Выдатнае яднанне. Асабліва хочацца адзначыць калгаснага конюха Міхаіла Шашко, які быў не толькі артыстам-выканаўцам, але і агітбрыгадным паэтам.

Журы агляду-конкурсу ўзнагародзіла дыпломамі і граматамі шэраг лепшых агітбрыгад.

**М. СМІРНОЎ.**



Калгасны конюх Міхаіл Андрэевіч Шашко — чытальнік, спявак і паэт.




Артыстам агітбрыгады Дзяржынскага раённага дома культуры «Колас» дапамагаюць лялькі...

Фота А. ДУДКІНА.

# НА БЫСТРЫНІ ЖЫЦЦЯ

*АГЛЯД АГІТАЦЫЙНА-МАСТАЦКІХ БРЫГАД У ГОМЕЛІ*

**267 брыгад працуюць у вобласці. 24 выйшлі пераможцамі на раённых і гарадскіх творчых спаборніцтвах, а шэсць лепшых з іх выступілі на абласным аглядзе. У агітацыйна - мастацкіх брыгадах удзельнічае больш трох тысяч самадзейных артыстаў.**

Народжаныя ў першыя гады Савецкай улады, камсамольска - маладзёжныя брыгады і ў нашы дні прапагандуюць героіку рэвалюцыйнага мінулага, рамантыку працоўных будняў, ідэалы камуністычнай будучыні, за якія «кожны дзень ідуць на бой». Шматлікія гледачы, якія прысутнічалі на аглядзе, горача падзялялі радасці, поспехі і няўдачы сучасных «сінеблузнікаў». Важна тое, што раўнадушных не было.

Агітбрыгада Брагінскага раённага дома культуры «Заўсёды ў дарозе» атрымала дыплом першай ступені. Сельскія працаўнікі з задавальненнем слухаюць і вясёлую песню, і вострую сатыру, глядзяць задорны маладзёжны танец. Праграма брыгады нагадвала своеасаблівае падарожжа па раёну, у якім расказваецца пра жыццё і працу калгаснікаў, рабочых саўгасаў, інтэлігенцыі. Хораша заявілі сябе артысты - аматары Л. Дзядзенка, В. Гардзеенка і Л. Каваленка. Многа сіл і намаганняў прыклаў кіраўнік брыгады Я. Шайкевіч, каб выступленне калектыву было цікавым і змястоўным.

Кожны нумар агітбрыгады «Будзьце здаровы!» Рагачоўскага раённага дома культуры (кіраўнік А. Сількевіч) дасціпна аформлены і выразна выкананы. Агітбрыгада з Рагачова — адзін з цікавейшых калектываў вобласці. Мастацкім словам і песняй брыгада дапамагае працаўнікам горада і раёна несці ганаровую вахту трэцяга года пяцігодкі.

Агітбрыгада Рэчыцкага гарадскога дома культуры «Праца і дружба тcreateць цуды» (кіраўнік В. Тамашук) складаецца з 22 чалавек. Яна заўсёды мабільная, выступае на любой сцэнічнай пляцоўцы і ў любых умовах. У праграме шмат дасціпнага, трапна слявяць яе ўдзельнікі перадавікоў вытворчасці, крытыкуюць тых, хто перашкаджае жыццю людзей і іх працы. Адлюстравана тэма 50-годдзя СССР. Цікавы вобраз калгасніка стварыў старэйшы ўдзельнік самадзейнасці, артыст народнага тэатра В. Васіленка. І ўсё ж сцэнарый праграмы трэба дапрацаваць. Відаць не варта змешваць жанр літаратурна-музычнай кампазіцыі з драматургічным матэрыялам сатырычнага агляду. Некаторыя сцэнкі, напрыклад «Хапуга», лагічна не завершаны. Рэчыцкая брыгада — дружны, зладжаны калектыў, у якога наперадзе шмат яшчэ творчых пошукаў і ўдач. Калектыў узнагароджаны дыпломам першай ступені.

«А што ў вас?» — так называлася праграма агітбрыгады Жлобінскага раённага дома культуры (кіраўнік Г. Станіслава), прысвечаная культуры і побыту сельскіх населеных пунктаў. Прыцягнула ўвагу сцэнка «Прыезд агранома», у якой узнята праблема ўладкавання маладых спецыялістаў на вёсцы. Адчуваецца, што жлобінцы горача жадаюць дапамагчы нашаму сучасніку, узняць яго на вялікія справы.

Літаратурна - музычную кампазіцыю «Вогнішча дружбы» прапанавала агітбрыгада Мазырскага завода меліярацыйных машын. На жаль, тэма 50-годдзя СССР не атрымала пераканаўчага мастацкага вырашэння. Сцэнарый патрабуе дапрацоўкі, а ўся праграма — далейшай рэпетыцыйнай работы.

У вобласці добра ведаюць агітбрыгаду Светлагорскага завода штучнага валакна «Аптымісты» (кіраўнік С. Лундзін). Самадзейныя артысты калектыву з вялікай цеплынёй расказваюць пра лепшых людзей свайго прадпрыемства — герояў ваенных год і мірных будняў, пра дружбу братніх народаў. Выступленне брыгады выклікала сімпатыі і апладысменты глядзельнай залы.

Вынікі агляду былі падведзены на навукова-практычнай канферэнцыі «Творчасць у агітацыйна - мастацкай брыгадзе». Якой павінна быць агітбрыгада? На якім матэрыяле будаваць сцэнарый? Дзе браць тэмы для праграм? Гэтыя і іншыя праблемы баявога жанру самадзейнага мастацтва былі абмеркаваны на канферэнцыі.

Загадчык аддзялення культасветработы Гомельскага музычна - педагагічнага вучылішча Г. Пікоўскі прааналізаваў работу рэжысёра над сцэнарыем. Вопытам падзяліліся кіраўнік калектыву з Рэчыцы В. Тамашук, рэжысёр з Рагачова А. Сількевіч, загадчык аўтаклуба Лоеўскага раённага дома культуры В. Зыбянок, старшыня рэспубліканскага журы агляду агітбрыгад Т. Курыла, дырэктар Гомельскага дома народнай творчасці Л. Рудзькоў.

На канферэнцыі гаварылася і аб тым, што ў вобласці мала працуе сельскіх агітацыйна-мастацкіх брыгад, не хапае кваліфікаваных кіраўнікоў, не вырашана і сцэнарная праблема. Думаецца, што дамы народнай творчасці і мастацкай самадзейнасці ў бліжэйшы час дапамогуць сельскім агітбрыгадам, якія знаходзяцца на пярэднім краі барацьбы за ўраджай трэцяга года пяцігодкі.

**М. БАНДАРЭНКА,**
член журы Гомельскага абласнога агляду агітацыйна-мастацкіх брыгад, старшы рэдактар Гомельскай студыі тэлебачання.

# НА ЭКРАНЕ — НАШ ЗЯМЛЯК

Чытачы добра ведаюць раман вядомага пісьменніка Я. Вараб'ёва «Зямля, да запатрабавання». Гэта маштабны і хвалюючы літаратурны твор аб выключнай мужнасці Героя Савецкага Саюза Л. Я. Маневіча. Леў Яфімавіч нарадзіўся ў Чавусах Магілёўскай вобласці, і нам, яго землякам, асабліва дарагі гэты чалавек і яго подзвіг. Узноўлены эпізоды жыцця і барацьбы савецкага разведчыка, аб якіх доўга ведалі толькі яго калегі ды архівы. Пісьменнік зрабіў жыццё героя зместам літаратурнага твора.

А пачыналася ўсё так. У 1965 годзе Я. Вараб'ёў, К. Сіманаў і Г. Баравік наведалі Крычаўскі краязнаўчы музей. Іх узрушыў гераізм адважнага разведчыка. Мы перадалі тады ім два невядомыя датуль фотаздымкі Л. Я. Маневіча, пазнаёмілі з экспанатамі, звязанымі з яго жыццём і дзейнасцю.

Вынікі доўгіх пошукаў архіўных дакументаў і сведак, паездкі ў тыя мясціны, дзе разведчык «ставіў на карту жыццё», былі пакладзены ў аснову кнігі. Цяпер яна стала мастацкім фільмам.



Кадр з фільма.

Нядаўна мне пашчасціла прысутнічаць на яго прэм'еры. (Цяпер ён дэманструецца ў кінатэатрах Мінска). Скажу шчыра, што стужка ўсхвалявала мяне ад першага да апошняга кадра. Пасля сеанса моцныя ўражанні не даюць спакою, абуджаецца роздум аб лёсе чалавека, моцнага духам, загартаванага савецкага патрыёта, які ў складаных абставінах варожага тылу вынаходліва і смела выконваў свой чэкісцкі абавязак. Ён з тых, хто на «нябачным фронце» садзейнічаў нашай перамозе над фашызмам.

Валявым, духоўна непахісным і ідэйна перакана618 паўстае перад гледачом Л. Маневіч на экране. Рэжысёр В. Дорман — пастаноўшчык вядомых кінастужак «Памылка рэзідэнта» і «Канец рэзідэнта» — праявіў сябе мастаком, які адчувае спецыфіку псіхалагічна-дэтэктыўнага жанру. Поспеху садзейнічала і тое, што на галоўную ролю быў запрошаны папулярны акцёр А. Стрыжэнаў. Як мне здаецца, перад ім яшчэ ніколі не стаяла такая складаная і адказная задача. Вобраз Эцьена — Маневіча ў яго выкананні дае падставы гаварыць яшчэ аб адной прынцыповай творчай удачы ў экранным паказе дзейнасці і характару разведчыка. Багацце драматургічнага матэрыялу дазволіла артысту па-мастацку стала і пераканальна ўвасобіць на экране таго, хто да гэтага часу жыў толькі ва ўспамінах нямногіх людзей, у дакументах і на старонках кніг.

Мяне асабіста захапляе, што, як і Л. Маневіч, А. Стрыжэнаў па ходзе падзей бліскуча «выконвае» ролю Кертнера. Ды ці толькі яго!.. Застаючыся ўвесь час савецкім чалавекам, Львом Маневічам, ён мабілізуе волю і дзівосныя здольнасці, каб быць у гэтую хвіліну тым, кім абавязаны быць па службоваму абавязку — разведчыкам. Калі бачыш на буйных планах твар А. Стрыжэнава, яго вочы, у якіх заўсёды пульсуе напружаная думка, то з'яўляецца амаль фізічнае адчуванне той таленавітай асобы, што ахвяруе сабой цалкам дзеля пастаўленай ім самім перад сабой і абставінамі мэты. Сабраны, стрыманы, разумны, ён і ў пластычным малюнку надзвычай выразны, і гэта заслуга акцёра, які распрацаваў так званую «партытуру ролі» вельмі дакладна і строга прадумана ва ўсіх дэталях і нюансах. Мабыць, пасля Д. Баніоніса ў «Мёртвым сезоне» гэта яшчэ адзін творчы крок наперад у акцёрскім увасабленні вобраза савецкага разведчыка.

Увогуле акцёры, на маю думку, падабраны В. Дорманам вельмі ўдала. М. Сагайдак (глядач помніць яе, у прыватнасці, па фільму «Гэта імгненне») выступае ў ролі італьянскай дзяўчыны, бацька якой загінуў ад рук «чорнарубашачнікаў», а дзядзька дапамагае Кертнеру — Маневічу. Былі прапановы, каб ролю Джаніны іграла малавядомая, або зусім невядомая актрыса. Запрасілі Марыю Сагайдак і не памыліліся. Вопыт, назапашаны ёю ў папярэдніх карцінах, дапамог актрысе пасляхова справіцца з новай роллю. Цікавыя па задуме і выкананню вобразы іншых разведчыкаў — баявых таварышаў Л. Я. Маневіча.

Здымаліся ў гэтай кінастужцы А. Жакаў, Л. Стрыжэнава, Л. Канеўскі... Пра кожнага можна сказаць шмат чаго добрага. І не толькі таму, што іх імёны ведаюць гледачы. На экране раскрыліся і новыя якасці, і ўменне паглыбляцца ў характары, у раней невядомы ім свет і «кінематаграфічны клімат».

...Фільм «Зямля, да запатрабавання» асабліва хвалюе крычаўцаў — землякоў і сучаснікаў Л. Я. Маневіча. Мы ўдзячны літаратарам і кінематаграфістам за тое, што яны расказалі пра чалавека, які для нашчадкаў будзе прыкладам самаадданага служэння свайму народу. Калі фільм па-сапраўднаму і ў лепшым сэнсе гэтага слова інтрыгуе гледача, асабліва маладога, то яго ідэйна-выхаваўчы ўплыў бывае ўдвая плённы. Ён і «трымае» нас у атмасферы адлюстраваных падзей, і дае жыццёвы ўрок мужнасці.

Такая мастацкая стужка «Зямля, да запатрабавання».

**М. МЕЛЬНІКАЎ,**
дырэктар краязнаўчага музея.
г. Крычаў.

# ГІСТОРЫЯ АДНАГО ВЕРША

*У самадзейных калектывах Слонімскага раёна, ды відаць не толькі ў нас, любяць песню «Люблю наш край». Вядома, што верш гэты напісала старэйшая наша паэтэса Канстанцыя Буйло, музыка — народная. Раскажыце, калі ласка, пра гісторыю напісання гэтага верша.*

**Міхаіл ГАРАБЕЦ,**
самадзейны кампазітар.

Рэдакцыя папрасіла паэтэсу Канстанцыю Антонаўну Буйло адказаць на пісьмо чытача. Вось што яна напісала. «Песня на мае словы «Люблю наш край» (музыка народная) пяецца даўно па ўсёй Беларусі. Мяне часта пытаюцца, як напісаўся гэты верш, пры якіх абставінах, пад якім уплывам. З задавальненнем адказваю Міхаілу Іларыёнавічу Гарабцу і іншым маім карэспандэнтам.

Нічога асаблівага прыгадаць не магу. Жылі мы тады непадалёка ад мястэчка Вішнёва Ашмянскага павета. Бацька мой,



Антон Аляксандравіч Буйло, працаваў аб'ездчыкам у лесе графа Бутэні-Храптовіча. У ляснічтве Адрованж быў вялікі кавалак зямлі, агароджаны частаколам. Там быў той зачараваны куток, куды я заўсёды заходзіла з вялікім хваляваннем. На ўзлессі быў разарый. Вясною і летам квітнелі ружы, і тады перад вачыма пераліваліся фарбамі вясёлкі ўся паляна, а пах над ёю стаяў такі цудоўны, быццам гусцела паветра ад яго моцы і чароўнасці. Гэты разарый разводзіў і ахоўваў таксама мой бацька.

Наш дом, маленькі, драўляны, стаяў над стаўком, абсаджаным бярозамі. Парк быў вялікі. У ім раслі дубы, бярозы, клёны і іншыя дрэвы. За паркам — дарога, а за ёю — палі і сенажаці. Цудоўны гэты куток заварожваў сваім хараством.

Я, мае сёстры і браты вучыліся тады дзе хто мог. У той час я пісала шмат вершаў. Там і напісаўся верш «Люблю наш край». Усё, што ўвабрала вока, што абудзіла думкі, усхвалявала сэрца, вылілася ў ім проста і сардэчна. Таму, відаць, і прыйшоўся ён да сэрца людзей, таму і пяюць яго на Беларусі амаль шэсцьдзесят гадоў.

Помню, Купала і Уладка, найбліжэйшыя мае сябры, часта нагадвалі мне гэтую песню. Яны любілі яе. Помню, Уладка*), бываючы ў мяне ў Маскве, заўсёды пела яе — і так шчыра, хораша...

Даўно ўжо жыву я ў Маскве — сэрцы ўсіх брацкіх рэспублік шчаслівага Краю Саветаў. Сюды скіраваны думы і мары ўсіх людзей нашай вялікай Радзімы. Масква — надзея і маяк працоўных людзей нашай планеты.

І мяне прытуліла Масква, як родная маці. Гэта мая другая Радзіма. Але Беларусь я помню, Беларусь я люблю, Беларусь бачу я вачыма душы — адноўленую, свабодную, шчаслівую, з яе поўным гордасці чалавечай акрыленым народам, які заваяваў сабе свабоду ў час Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі і разбіў з дапамогаю братніх народаў Савецкай дзяржавы фашысцкіх акупантаў. Беларусь стала роўнай між роўных, слаўнай між слаўных рэспублік свабодных Савецкага Саюза».

*) Уладзіслава Францаўна, жонка паэта.

# «НЕ МАГУ СЯДЗЕЦЬ ДОМА...»

Фашысты спалілі Смалявіцкую раённую бібліятэку. Прыехаўшы з эвакуацыі, Марыя Фёдараўна Аляксандрава адразу ж прыступіла да яе аднаўлення. Наладзіла сувязь з чытачамі, падключыла да работы актывістаў. Праз два гады бібліятэка налічвала ўжо дзевяць тысяч экземпляраў кніг, стала цэнтрам культасветработы ў раёне.

— Памятаю, — расказвае Марыя Фёдараўна, — у маі 1949 года мы правялі першую канферэнцыю чытачоў па кнізе Івана Шамякіна «Глыбокая плынь». На канферэнцыі прысутнічаў сам аўтар з драматургам Андрэем Макаёнкам. Гэта была цікавая сустрэча. З таго часу беларускія пісьменнікі зачасцілі да нас. Гасцямі ў нашай бібліятэцы былі Пятро Глебка, Іван Мележ, Мікола Гамолка, нашы землякі Алесь Кучар, Уладзімір Юрэвіч.

Прайшлі гады. У 1957 годзе бібліятэцы было прысвоена імя Максіма Багдановіча.

Марыя Фёдараўна загадвае цяпер у бібліятэцы чытальнай залай. Тут па-хатняму ўтульна. На падаконніках кветкі. Пяшчотным, крыху сумнаватым позіркам углядаецца з партрэта, што вісіць на сцяне, Багдановіч.

Кніжны фонд бібліятэкі цяпер каля 43-х тысяч тамоў. Кожны дзень тут мноства людзей — у абанементным аддзеле, і ў чытальнай зале.

Марыя Фёдараўна дае чытачам грунтоўныя і кваліфікаваныя парады. У яе багатая памяць і да яе ахвотна звяртаюцца.

Яна ўжо даўно магла б на знаходзіцца на заслужаным адпачынку, але...

— Не магу сядзець дома. За дваццаць восем год работы ў бібліятэцы я так палюбіла кнігі, чытачоў, што не здолею жыць без іх...

**Яфім ГАВАРУШКА.**

# ЦІКАВАЕ ВЫДАННЕ

*Вядома, што ў Польскай Народнай Рэспубліцы дзейнічае грамадска-асветная арганізацыя — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, якое знаходзіцца ў Беластоку.*

*Што сабой уяўляе БГКТ, якія дасягненні ў яго дзейнасці, які аўтарытэт мае сярод беларускага насельніцтва?*

*На гэтыя і на шмат іншых пытанняў адказвае кніжка «Беларускае грамадска-культурнае таварыства» («БГКТ»), якую ў канцы 1972 года выдала на польскай мове Галоўнае праўленне гэтай масавай арганізацыі.*

*Ва ўмовах народнай улады ў раёнах, дзе пражываюць беларусы, ажыццявіліся вялікія гаспадарчыя, сацыяльныя і культурныя пераўтварэнні. Беларусы нароўні з палякамі і прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей маюць сёння магчымасць усебакова развіваць сваю культуру.*

*Кантакты беларускага насельніцтва ў Польшчы з БССР — шырокія і змястоўныя. Беларускае грамадска-культурнае таварыства актыўна адзначае ўсе важнейшыя падзеі ў жыцці БССР і ўсяго Савецкага Саюза. Да прыкладу, можна нагадаць святкаванне ў нас 50-годдзя ўтварэння СССР і 50-годдзя ўтварэння БССР, 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа і шмат якія іншыя мерапрыемствы.*

*Гэтая масавая арганізацыя мае свае аддзелы ў паветах Беластоцкага ваяводства, у гарадах Беластоку, Варшаве, Гданьску, праводзіць культурна-асветную работу, падтрымлівае літаратурны рух і выдае кніжкі на беларускай мове, аб чым, у прыватнасці, піша ў сваім артыкуле, змешчаным у даведніку, Аляксандр Баршчэўскі. Галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі расказвае пра беларускі тыднёвік, які ўжо выходзіць без перапынку 17 гадоў. Мовавед, навуковы супрацоўнік кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Ганна Багроўская характарызуе беларускія гаворкі Беласточчыны.*

*Даведнік «БГКТ» багата ілюстраваны фотаздымкамі. Рэдактарам зборніка з'яўляецца Георгій Валкавыцкі. Зборнік дае даволі шматбаковы матэрыял пра беларусаў, што пражываюць у Польшчы, пра іх сяброўскія адносіны з народамі Савецкага Саюза, пра іх актыўны ўдзел у жыцці сваёй краіны — Польскай Народнай Рэспублікі.*

**Віктар РУДЧЫК.**
Беласток.

ВОДГУКІ, АДКАЗЫ

# «А КАЛІ ПАДУМАЦЬ ПРА ДЗЯЦЕЙ»

Так называлася пісьмо чытача нашай газеты А. Шабуневіча, надрукаванае ў № 8 (2639) 23 лютага бягучага года. У ім звярталася ўвага на тое, што часам на спектаклі для дарослых у тэатры юнага гледача трапляюць дзеці малодшага ўзросту.

Дырэктар Рэспубліканскага тэатра юнага гледача А. Вольскі напісаў у рэдакцыю:

«Пісьмо «А калі падумаць пра дзяцей» абмяркоўвалася кіраўніцтвам тэатра. Факты, якія прыводзяцца ў заметцы, сапраўды мелі месца.

Работнікам, якія адказваюць за арганізацыю гледача, дадзена ўказанне больш строга сачыць за тым, каб на спектаклі для дарослых дзеці (вучні сярэдніх і малодшых класаў) не дапускаліся».

## ПАЎДНЁВАЯ АСЕЦІЯ

### Аляксандр ПУХАЕЎ

●

Калі б сваё апошняе жаданне
У жыцці мне давялося выбіраць,
Варожасць бы хацеў спаліць дазвання
І гора лютай смерцю пакараць.

А каб парою пешы ці коннік
У дом мой ноччу не паблытаў шлях,—
Трымаць хацеў бы сэрца на далоні,
Масты ў цяснінах—на сваіх грудзях.

●

Жыць без Радзімы—
Як арлу без крылаў,
Як рыбе задыхацца — без вады.
Што здужаў я —
Ва ўсім Радзімы сіла,
Я з ёй карэннем зросся назаўжды.
Адно дыханне ў нас,
Адно ў нас сэрца,
Жыву з Радзімай доляю адной.
Мне лёгка
на яе зямлі памерці,
Ды толькі цяжка
расставацца з ёй.

### Георгій ДЗУГАЕЎ

## З Н О Ў ПРЫЙШЛА ВЯСНА

*(З франтавога блакнота)*

Зноў у мой акоп прыйшла вясна,
Бліснуў на штыку прамень употай.
Як ты без мяне цяпер адна,
За якою ты сядзіш работай!

Можа з воўны валіш капялюш! —
О, як рукі мільгацяць імгненна! —
Ён прыкрыў бы галаву ад сцюж,
Ён прыкрыў бы ў спёку ад праменняў.

Ды не трэба зараз ён тут мне,
На вайне зручней стальная каска.
І ў баі ад кулі захіне,
І вады зачэрпнеш па-салдацку.

Лепш з калыскі коўдру ты адкінь,
Калі мамы ў гэты час няма там, —
Я зірнуць хачу, які мой сын,
Ці сапраўдным ён расце салдатам.

Знаць хачу, які ён бачыў сон
І якія вочы ў майго сына,
Як фашыстам помсціць будзе ён,
Як ён будзе бараніць Айчыну!

### Хаджы-Мурат ДЗУЦЦАЦІ

●

Змагаліся вы.
! сябе не ўяўлялі
У будучыні —
на скверах,
на плошчах,
у вёсках родных
З горда закінутымі галовамі
На п'едэсталах халодных.
Не думалі вы
пра смерць,
Калі грудзьмі на штыкі
ішлі без лат,
без шчытоў,—
У адных гімнасцёрках...
Не думалі вы
пра чыны,
Пра залатыя зоркі.
Знішчаючы ворага,
Вы проста жыцця не ўяўлялі
З рабскай юдоляй.
Вы проста мірыцца не ўмелі
З норавамі чужымі,
з чужою воляй.
У варожае логава
вы ішлі
бязлітасна і сурова—
Да родных сем'яў ішлі,
да працы ішлі дамоў вы...
Свет быў чорны такі,
Калі вы,
паміраючы,
на яго глядзелі!
Чорнае святло,
чорнае паветра —
Ад зямлі да неба!
А вам
светлае святло
так было трэба!
Не, паміраць вы зусім не хацелі.
Да перамогі ішлі вы —
і цяжка пайшлі
У чорную цемень.
Ноч жыве.
Вы размаўляеце ціха
з карэннем,
З травою шэпчацеся,
Сусвет
слухаеце з сутарэння...
Маё сэрца,
як чорнае неба,
над вамі
У бясхмар'е і ў непагоду...
Як безыменныя зоркі,
на ім гараце вы заўсёды.

### Коста МАРГІЕЎ

## Я ХЛОПЕЦ З ГОР

Я хлопец з гор, я нарадзіўся там,
Дзе для арлоў прастору гэтак многа,
І змалку брат я горцам пастухам,
Па ранішняй расе мая дарога.

Я хлопец з гор, і горы — гонар мой,
Яны мае і ў радасці, і ў горы,
Нідзе не ўбачу я красы такой,
Адвечныя браты мы — я і горы.

Я хлопец з гор ды мора я люблю,
Блакіт яго мне бляскам вочы слепіць...
Нырца даю і пырскі хваль лаўлю...
А горы ўсё ж, прызнаюся, мне лепей.

Я хлопец з гор, і колькі б я ні плыў,
Заўсёды бераг мой — крутыя горы,
Дзе кружаць над цяснінамі арлы,
Дзе неба нада мной — блакітным морам.

Я хлопец з гор, я ўвесь дазвання — іх,
З вяршынь відаць дарогі ў свет бясконцы...
Купацца буду ў кроплях дажджавых
І ў возеры чырвоным—сонцы.

Пераклаў Г. КЛЯУКО.

## УКРАІНА

### Пятро ГАРЭЦКІ

## МАЯ ЗЯМЛЯ

I.

Я цвёрда веру, што жыве яна,
Што сок яе, як кроў
у чалавека,
І што зямля народжана здаўна,
Каб сэрцам быць красой
жыцця навекі.

У садзіку вішнёвым маладым,
У аксаміце траў на лугавіне,
У квецені, у каласку тугім,
У салаўінай песні на каліне.

І хто сказаў, што ты, зямля,
нямой
Бываеш у часы бяды і шчасця?
Была і ёсць, і будзеш ты жывой
З адкрытым сэрцам і душою
насцеж.

Заўжды я чую — дыхае зямля,
Твае лаўлю я трапяткія словы.
А ты гаворыш ціха, спакваля
У родным полі спевам
каласковым
О, не была ты ў грозны час
нямой,
Пакутвала не моўчкі і гарэла,
А супраць ворага ўздымала
голас свой
І ўсенароднай помстаю кіпела.
Зямля жыве. Яна сатканая
з красы.
Зірні пяшчотна ў ранкавую
цішу,
На дужых грудзях нівы каласы
Яна з любоўю мацеры калыша.

II.

Казаў заўсёды мой любімы
татка,
Як пабачыш згубленым
зярнятка,
З халадком у сэрцы не прайдзі,
У зямлю зярнятка пакладзі.
Дык тады пад сонцам
прамяністым
Колас выкіне яно зярністы.
Можа стрэнеш стомленай
птушынку,
Не пакінь у цяжкую хвілінку,
Абыякавым не будзь тады,
Дай ёй хлеба, кропельку вады.
Сын зямлі — на ёй пакінь свае
сляды.
...На палетку вецер каласы
разгушкаў,
І шумяць сады, спяваюць
птушкі.
Рад за тое я, што з даўніны
След бацькоўскі
Славім мы — сыны.

III.

Ты скажаш, юнак: «Гэта ўсё
у даўніне».
А я пра бяду не забыўся.
З духмянай пшаніцы ўсё мне
Уночы пірог смачны сніўся.

А потым не спалася. Хутка
ўставаў,
Як ранак пастукаўся ў шыбку.
І чорнага хлеба акрайчык
я браў,
Што бацька мой рэзаў
на скібкі...

Падрос я, і сам жа тады
па вясне
У полі за гаем, за лугам,
Хадзіў басанож па сырой
баразне,
Як бацька калісь мой
за плугам.

Гады адшумелі. І я пасталеў,
Ды пах адчуваю я глебы:
З дажджамі і сонцам яна
на стале
Буханкай духмянага хлеба.

Пераклаў А. АСТРЭЙКА.

## АЗЕРБАЙДЖАН

### Іса ІСМАІЛЗАДЭ

## РАДЗІМА

*Радзіма, ты на тысячах дарог*
*Мне цеплыні сваёй не шкадавала.*
*А вершаў напісаць такіх не змог,*
*Каб ты іх, як прызнанне, паўтарала.*

*Прабач, Радзіма, сталася не ў гадах,*
*Прабач, што не пакляўся я ні разу,*
*Што не чуваць яшчэ ў маіх радках*
*Напеву каласоў тваіх і сазаў.*

*Яны ўжо нарадзіліся ў сэрцы,*
*Яны ўжо адгукаюцца ў сэрцы.*

*Тваё паданні змалку я люблю.*
*Я, нібы саз, настроены ўмела.*
*Я просьбу ўцёсаў і далін лаўлю:*
*«І мы ў твае сугучны захацелі».*

*Настройвалі мой саз*
*Палі, крыніцы, ветры.*
*І сэрца б'ецца у палях, крыніцах, ветрах.*

*Бруяцца рэкі ў пясках сухіх.*
*Ты да сябе іх сэрцы прыгарнула.*
*Твае дарогі — у вачах маіх,*
*Ды ні адна з іх сэрца не мінула.*

*Радзіма, ты на тысячах дарог*
*Мне цеплыні сваёй не шкадавала,*
*А вершаў напісаць такіх не змог,*
*Каб ты іх, як прызнанне, паўтарала.*

## ІМГНЕННЕ

*Я у жыццё тваё ўвайсці быў рад*
*На міг адзін: вяла мяне дарога.*
*Я вытрымаю твой любы пагляд,*
*Каб толькі не выпытвала нічога.*

*Ты не пытай, ці многа мне гадоў,*
*І не пытай, адкуль, з якога роду.*
*Я з сінявы загадкавай прыйшоў*
*І ля цябе спыніўся назаўсёды.*

*Мой позірк, мае рукі супакой,*
*Хачу ў тваім паглядзе затрымацца,*
*Каб я стаяў адзін перад табой,*
*Калі ты ў люстра будзеш угледацца,*

*Каб мой пагляд адной табе свяціў,*
*Каб ты адна, адна яго чытала,*
*Каб ён тваю пяшчоту абудзіў*
*І не пытаў, адкуль яна зляцела.*

*Ты не пытай, з якіх прыйшоў краёў,*
*Спатканні гэтыя бываюць рэдка.*
*Калі нам суджана сустрэцца зноў,*
*Мы гэты міг гукнём, нібыта сведку.*

*Я у жыццё тваё ўвайсці быў рад.*
*На міг адзін: вяла мяне дарога.*
*Я вытрымаю твой любы пагляд,*
*Каб толькі не выпытвала нічога.*

## ЭЦЮД

*Ручай ледзь-ледзь трапечацца*
*ў цясніне,*
*Стань на яго, і — знікне на вачах.*
*На ўзгорку прыляпіліся хаціны,*
*Падобныя на чорных чарапах.*

*І варта крыкнуць, ці скалу падважыць—*
*І хаткі ўсе ў прадонні знікнуць з воч.*
*Ніхто пра іх ніколі не раскажа:*
*Цясніна, і ручай, і нават ноч.*

*Маўчанне па цясніне можа плаваць,*
*Прыкідваецца стоеным ручай.*
*Але цясніна не ўмее плакаць,*
*І хаткі затаілі свой адчай.*

*Калі ж хто крыкне гучна і трывожна,*
*І хаткі ўніз пакоцяцца наўскоч,*
*Тады змаўчаць ужо ніхто не зможа:*
*Цясніна, і ручай, і нават ноч.*

Пераклаў Ю. СВІРКА.

Праўленне Саюза пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Паўлюку Прануза з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці бацькі.

Прэзідыум Цэнтральнага савета Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці персанальнага пенсіянера, былога намесніка старшыні прэзідыума Мінскага гарадскога савета Таварыства Іваноўскага Аляксандра Аляксандравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.

*НІ ДАЦЬ — НІ ЎЗЯЦЬ*




Стары халасцяк заклапочана пазваніў адміністратару Цэнтральнай тэатральнай касы.

— Добры дзень, — далікатна вымавіў ён. —Ці не падкажаце, што ў вас сёння? Вельмі патрэбна!

— Калі ласка, «Мілы ілгун»... — пачуўся ў трубцы гарэзлівы жаночы голас.

Халасцяк здзіўлена крутануў трубку і раптам падумаў: «Чакай, пажартую і я». Ён зноў весела запытаў:

— А як наконт заручын? Калі?

— «Заручыны»? — замяўся жаночы голас. — Пачакайце... «Заручыны ў манастыры» ў аўторак.

— Дарагая, а ці нельга раней і не ў манастыры?

— Тады... — мякка вымавіў жаночы голас. — Тады заўтра, «У ноч зацьмення месяца».

— Ведаеце, я экзотыкай не захапляюся; давайце выберам штонебудзь сучаснае.

— Ну, вазьміце «Таблетку пад язык»..

— Што вы, дзякуй богу, я не валідольшчык. Я кожны дзень зарадку раблю і бегаю...

— Грамадзянін, — пасуровеў жаночы голас. — Мне не да жартаў. Раю «Таблетку».

— Прабачце, — лагодна адказаў халасцяк, — я ўсё разумею. Вас, напэўна, ашукалі. Сёння ж дзень падманаў...

— «Дзень цудоўных падманаў» быў на тым тыдні, — сярдзіта адсекла жанчына.

— Не-не, вы памыляецеся, — спахапіўся халасцяк. — Сёння—першае красавіка!

Праз хвіліну ў трубцы пачуўся лагодны смех.

# ДЗЯКУЙ ЗА ЎСМЕШКУ!

*Пад такой назвай выйшла першая кніжка «вожыкаўскай» бібліятэкі ў гэтым годзе...*

*Першая! Кажуць, першы блін... Не, гэты не камяком, а са шчырым смехам! І якая розніца, дзе працуе аўтар В. С. Швяцоў — хай сабе працуе чалавек у Мінскім тэхналагічным тэхнікуме, хай на здароўечка супрацоўнічае ў часопісе «Вожык», іншых выданнях... Хай паболей малюе смешных шаржаў і карыкатур, хай дорыць свае зычлівыя (у тым ліку і «парнаскія») ўсмешкі людзям!*



— Куды ж уладкавацца на работу? Тут звалілі, адтуль прагналі, адсюль сам збег...



Стрэліў...



— Вы ўвесь час ігралі старых, цяпер вам перад пенсіяй можна і маладую сыграць.



...і трапіў...



— Хутка пачатак?
— Шукаю канец.




*А ТЫ АДКУЛЕЧКА, ПРЫЯЦЕЛЬ?*




**Паплылі ўсім на здзіўленне**
**Чуткі-пагалоскі,**
**Што збіраецца пісьменнік**
**Напісаць пра вёску.**

**«Напішу дакументальны**
**Твор аб вёсцы новай,**
**Буду я арыгінальны**
**З фабулай, асновай...»**

**Месца выбраў неблагое:**
**Ля цвітучай грэчкі,**
**Пачапіў гамак між хвоек**
**Каля самай рэчкі.**

**Еў смятану, смажыў рыбу,**
**Загараў, купаўся,**
**Да калгаснае сядзібы**
**Так і не дабраўся.**

**...Крочыць важна, самабытна**
**Ён да выдавецтва.**
**Ходзяць чуткі — зноў нібыта**
**Перавыдаецца.**

*АВОХЦІ МНЕ!*

**Георгій ЮРЧАНКА**

## ЗАЦЯТЫ ШПАК

Чаму ты, шпак, такі журботны?
Яўген КРУПЕНЬКА

— Дзень добры, шпак. Мінулі буры.
Зноў пахне светам і вясной.
Чаму ж ты стаў такі пануры
І не вітаешся са мной?

Ў цябе шпачыха закахана,
І я даўно цябе люблю.
Таму — клянуся! — позна-рана
Шпакоўню новую зраблю.

Туды не ўлезуць грак і галка,
І кот цябе не абскубе.—
Я пераконваў гэтак палка,
Ажно расчуліў сам сябе.

У сэрцы горкі сум прачнуўся,
З-пад вейкі выпаўзла сляза.
А шпак зацята адвярнуўся
І мне ні слова не сказаў.

## НАТХНЕННЕ

Заўважаю,
што такім узнёслым
Я сябе
не адчуваў даўно.
Уладзімір СКАРЫНКІН

Сёння галкі з радасным усхліпам
Цогаюць, нібы ад першаку.
Вераб'і спраўляюць баль на ліпах,
Верашчыць сарока ў лазняку.

Дзьмуты певень з грабянём агністым
Меціць шлях бясстрашна праз быльнёг;
Цэлы дзень у сажалцы вячыстай
Плешчацца заўзята качанё.

І гусак, вохляючы ў паклонах,
Ў ярыну спяшае за гумно...
Заўважаю, што такім натхнёным
Я сябе не адчуваў даўно.

*ПА СВЕТУ ДОБРА ПАХАДЗІЎШЫ...*

# ТАЛЕНТЫ І ПАКЛОННІКІ

*— Колькі каштуе гэтая карціна?*
*— Пяць тысяч.*
*— А дзе ж асёл?*
*— Які асёл?*
*— А той, што дасць вам столькі за такую карціну.*

□

*— Ты ведаеш, Хеля, сёння мне заказалі тры партрэты.*
*— Ну вось бачыш, не такія ўжо людзі паганыя, якімі ты іх малюеш.*

□

*— У тваім пейзажы ёсць многа цудоўнага. Але па-сяброўску я павінна табе заўважыць: твае свінні падобны да качак...*
*— Якія свінні? Гэта ж козы.*
*— Козы? Тады я бяру свае словы назад.*

□

*Аднойчы дама запытала скульптара:*
*— Як вы змаглі стварыць такую прыгожую фігуру?*
*— Я высек яе з мармуру.*
*— Адкуль жа вы ведалі, што яна ў ім была?*

□

*— Я хацела б быць кіназоркай, каб пра мяне гаварыў увесь свет.*
*— Мала таго, што пра цябе гаворыць уся вуліца?*

□

*— Тата,— пытае маленькі сын,— што такое опера?*

*— Опера? Гэта калі адзін аднаго заколвае кінжалам, а той, замест таго, каб упасці на зямлю, доўга і гучна спявае...*

□

*— Божа мой! Навошта вы цягнулі піяніна на спіне? Чаму не скарысталіся паслугамі транспарту?*
*— Спрабаваў, але мяне не пусцілі ў трамвай.*

□

*— Я ўчора быў у тэатры і не магу зразумець, што паказвалі — драму ці камедыю?*
*— А чым скончылася пастаноўка?*
*— Вяселлем.*
*— Тады гэта была трагедыя.*

□

*— Калі ты заўжды будзеш добра іграць на скрыпцы, то штодзённа будзеш атрымліваць ад мяне па 50 капеек.*
*— Э, не, тата. Я ўжо маю лепшую прапанову. Суседзі даюць мне па рублю, калі я зусім не буду іграць.*

□

*— Ты, відаць, ужо не кахаеш мяне. Раней цэлымі вечарамі сядзеў побач і трымаў мяне за рукі...*
*— Любая мая, але ж з таго часу, як мы прадалі піяніна, у гэтым няма патрэбы.*

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 05657

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.

Галоўны рэдактар Х. Д. ЖЫЧКА.

Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. Ц. БАЖКО, Б. І. БУР'ЯН, А. І. БУТАКОЎ, А. С. ГРАЧАНІКАЎ, Ю. П. ГРЫГОР'ЕЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, І. М. ДАБРАЛЮБАЎ, В. У. ІВАШЫН, А. С. КАЗЛОЎСКІ, П. М. МАКАЛЬ, У. Л. МЕХАЎ (адказны сакратар), Л. Я. ПРОКША, Р. К. САБАЛЕНКА, І. А. САНКОВА, М. Г. ТКАЧОЎ, Ю. М. ЧУРКО, Р. Р. ШЫРМА.